

Мікола РАВЕНСКІ
Ведамы Беларускі Музычны Дзеяч
6-XII-1886 — 9-III-1953

**БЕЛАРУСКІ СЬВЕТ**
**BYELORUSSIAN WORLD**
NO. 13 (42) - 1983

# Магутны Божа















Магутны Божа! Ўладар сусьветаў,
Вялікіх сонцаў і сэрц малых!
Над Беларусяй, ціхай і ветлай,
Рассып праменьні сваé хвалы.

Дай спор у працы штодзеннай, щэрай,
На лусту хлеба, на родны край,
Павагу, сілу і веліч веры
У нашу праўду, у прышласьць — дай!

Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
Учынкам нашым пашлі ўмалот!
Зрабі магутнай, зрабі шчасьлівай
Краіну нашу і наш народ!

Mahutny Boža! Ŭładar suśvietaŭ,
Vialikich soncaŭ i serc małych!
Nad Biełarusiaj, cichaj i vietłaj,
Rassyp pramieńni svaje chvały.

Daj spor u pracy štodziennaj, šeraj,
Na łustu chleba, na rodnyj kraj,
Pavahu, siłu i vielič viery
U našu praŭdu, u pryšłaść — daj!

Daj uradlivaść žytniovym nivam,
Učynkam našym pašli ŭmałot!
Zrabi mahutnaj, zrabi ščaślivaj
Krajinu našu i naš narod!

 Кампазытар МІКОЛА Р А В Е Н С К І (1886 - 1953) 

Куранты ў Магілеве штодня выбіваюць мэлёдыю "Люблю наш край". Штотыдня вернікі беларускіх прыходаў Аўстраліі, Эўропы, Канады ды Злучаных Штатаў узварушальнай малітвай "Магутны Божа" просяць лепшае будучыні для Беларусі. У канцэртных залях заходняга сьвету беларуская песьня перадае слухачу мэлёдыі беларускіх прастораў, беларускае мінуўшчыны. У беларускіх хатах, на вечарынах, на выстаўках родныя напевы з кружэлак ствараюць беларускую атмасфэру. У бібліятэках, у музычнай літаратуры сустракаецца цімала матэрыялаў, друкаў з аналізам беларускае мэлёдыі, ейнага багацьця, значаньня для народу. Соткі не маладых сёньня ўжо векам беларусаў з асаблівай прыемнасьцяй успамінаюць маладыя гады, калі яны бралі ўдзел у беларускіх хорах, сцэнічных выступах, пазнавалі практычна й тэарытычна беларускую музыку.

Чытач можа папытацца — а што тут супольнага? А супольнае тут — беларуская музыка - песьня ды лірнік - мастак - кампазытар, які гэтулькі спрычыніўся да зьбіраньня мэлёдыі, апрацаваньня яе, тэарытычнага ейнага распрацаваньня ды папулярызацыі і ўкараненьня яе. Імя гэтага лірніка — Мікола Р а в е н с к і. Гэта ён напісаў мэлёдыі й да вершу "Люблю наш край" і да гімну "Магутны Божа" — песьняў, якія ведаюць усе беларусы на Бацькаўшчыне й вонках.

Гэта Мікола Равенскі першы пачаў распрацоўваць тэарытычныя асновы беларускае музыкі, стварыў першую беларускую опэру "Браніслава", быў адным зь першых стваральнікаў сьпеўнікаў для шырокага карыстаньня, быў піянерам-арганізатарам беларускіх масавых хораў, найграваў кружэлкі, шырака папулярызаваў беларускае музычнае мастацтва й мэлёдыю. Мікола Равенскі ёсьць таксама адным зь першых беларускіх кампазытараў, хто надзвычайна шырака распрацаваў царкоўныя напевы на груньце беларускай народнай мэлёдыі.

Ад 1920-га году й да 1940-х гадоў на Бацькаўшчыне, незаўсёды ў спрыяльных абставінах, бо савецкая ўлада яго перасьледвала, а пазьней ад 1944 году ў заходняй Эўропе — Мікола Равенскі стварыў вельмі шмат. Ён апрацаваў, гарманізаваў ды напісаў мэлёдыі да соткаў песьняў. Ён стварыў шэраг большых музычных твораў, напісаў колькі тэарытычных артыкулаў і працаў.

Адначасна Мікола Равенскі займаўся выкладніцкай працай у сярэдніх школах, тэхнікумах, музычных вучылішчах ды выкладаў у кансэрваторыі. Ды поруч із тэарытычна-настаўніцкай дзейнасьцю Мікола Равенскі, бадай больш як хто іншы спрычыніўся да папулярызацыі беларускае песьні. Ад дваццатых гадоў у Менску, калі ягоны хор быў гэтулькі-ж ведамы, як і хор У. Тэраўскага, блізу да сярэдзіны пяцьдзесятых гадоў — Беларускага Студэнцкага хору ў Бэльгіі ім арганізаванага й кіраванага — Мікола Равенскі даў соткі канцэр-

таў. Са сваімі хорамі Мікола Равенскі выступаў у Бэрліне, у Лёндане, у Парыжы, у Боне, у Люксэмбурзе, у Галяндыі ды ў дзесятках гарадоў Бэльгіі. Бясспрэчна, яму належыць пальма пяршынства ў увядзеньні беларускае песьні на сцэны заходняе Эўропы ды пашырэньня беларускае музычнае культуры на Захадзе.

Сёлета спаўняецца 30 гадоў ад дня сьмерці Міколы Равенскага (Сакавік 1953 г.). Пад гукі ягонае-ж песьні праводзіў нябожчыка Беларускі Студэнцкі хор на могілкі ў горадзе Лювэне. Помнік, праекту й выкананьня беларускага мастака Міхася Наўмовіча, увекавечвае магілку лірніка-кампазытара Міколы Равенскага.

Выдатная роля Міколы Равенскага ў гісторыі беларускае музыкі, беларускае культуры й беларускае справы. Гэтак яго будуць разглядаць, успамінаць і ведаць, бо-ж і цяпер ужо ягонай спадчынай-творчасьцяй карыстаецца ўвесь беларускі народ.

Вітаўт Кіпель

---

Ул. Бакуновіч (ЗША.)

## ЯК НАРАДЗІЛАСЯ ПЕСЬНЯ

(жменя ўспамінаў пра Міколу Равенскага)

Першы раз я спаткаўся з сп. М. Равенскім у 1945 годзе ў беларускім лягеры на Гангофэр Зыдлюнг у Рэгэнсбургу ў Баварыі. З пачатку спатканьні гэтыя абмяжоўваліся толькі прывітаньнем "добры дзень" ці "добрай раніцы". Пасьлей ужо часам затрымоўваліся й пагаварылі аб пагодзе ці аб нейкай палітычнай навіне, штучна перарobленай ужо некім на нашую карысьць, што вось ужо зараз амэрыканцы "возьмуць бальшавікоў за горла".

"Палітыкавалі" часам, і гэта не таму, што сп. Равенскі любіў палітыкаваць — ён ня любіў ні палітыкі ні палітыканства, а таму, што як на той час — цяпершчыны мы ня мелі, а будучыні ніякае не прадбачвалася, дык проста пацяшалі сябе.

Найпрыямней ён гаварыў аб прыгожай баварскай пагодзе й параўнёўваў яе з пагодаю нашага прыгожага беларускага сіняга лета. Галоўнае, як я зразумеў потым, ён любіў быць у кампаніі з маладымі, і гэта ў яго засталося да самае сьмерці.

Здаецца, быў ужо 1946 год. Беларускі Камітэт задумаў зарганізаваць таксама й дзіцячы садок, бо гімназія й пачаткавая школа ўжо працавалі. Дзеля гэтага быў зроблены заклік да ўсіх жыхароў беларускага лягеру, што калі хто ведае беларускія дзіцячыя песьні, каб зьявіліся да сп-ра Равенскага. Ня ведаю, колькі "знаўцаў" зьявілася да яго, але я зьявіўся.

Памятаю, быў летні вечар. Я пастукаў у дзьверы да сп-ра Равенскага — адазваўся ягоны ветлівы голас "калі ласка". Я ўвайшоў у

ягоны пакой. Сп. Равенскі сядзеў пры стале й пераглядаў нейкія паперы. Пабачыўшы мяне, ён падняўся з крэсла, прывітаўся й папрасіў сесьці пры стале, у яго з правага боку. Паколькі я нічога спэцыяльнага на думцы ня меў, каб сказаць перад тым, як пачаць галоўную гутарку, дык адразу прыступіў, як кажуць, да мэты майго візыту. Сказаў, што ведаю беларускую дзіцячую песеньку, але бяда тая, што я ня ведаю ўсіх словаў, бо некалі, як я быў яшчэ хлапчуком, у маёй вёсцы толькі адзін раз чуў, як двух хлапцоў яе сьпявалі, але пасьля першае звароткі яны нечага расьсьмяяліся, і на тым іхны сьпеў скончыўся. Можа, аднак, знойдзецца нехта ў лягеры, што будзе ведаць усе словы. З усьмешкай на вуснах сп. Равенскі сказаў: "Калі ласка прасьпявайце — я паслухаю". Я сьпяваў, а сп. Равенскі слухаў падпёршы левую шчаку кулаком.

Праслухаўшы мяне, ён палажыў на стале перад сабою нотную паперу й папрасіў яшчэ раз прасьпяваць, узяўшы алавіка ў руку. Прычым ягоная ўсьмешка зьнікла — твар зрабіўся паважны. Я зноў сьпяваў:

"Ішоў казёл дарогаю, дарогаю шырокаю —
Спаткаў казу бязрогую, бязрогую казу.
Давай, каза, пабрыкаем, давай каза... (ня ведаю больш)".

"Ня ведаю больш" я прасьпяваў, бо далей словаў ня ведаў, а хацеў перадаць толькі мэлёдыю.

Я сьпяваў, а сп. Равенскі запісваў на пяці лінейнай нотнай паперы. Пазьней крыху, уважліва пераглядзеўшы запісанае, ён мяне папрасіў яшчэ пару разоў прасьпяваць, а сам рабіў папраўкі ў напісаным.

Із заплянаванага дзіцячага садка нічога не атрымалася, але гэта мне дало магчымасьць першы раз правесьці вечар з М. Равенскім. Фактычна ад гэтага часу я пачаў яго пазнаваць і цаніць.

Арганізаваньне сьвецкага хору сп. Равенскі пачаў яшчэ на Гангофэр Зыдлюнгу. Матарыял да гэтага хору, як цяпер прыпамінаю, гэта была сапраўды сыравіна. Брак дысцыпліны. Некаторыя прыходзілі на сьпеўкі толькі таму, што там былі дзяўчаты й хлапцы. Дзяўчаты хіхікалі падчас сьпеўкі, а таму сп. Равенскі па колькі разоў на вечар браў сваю скрыпку пад паху й са словамі "калі ня хочаце, дык што-ж..." ішоў да хаты. Тады дзяўчаты даганялі яго на калідоры, перапрошвалі, і ён вяртаўся назад. Там, сапраўды, трэба было мець сталёвыя нэрвы й такую-ж цярплівасьць.

Мы доўга тапталіся над песьняй "Міма садзіка", якую толькі правільна выканалі ў 1964 (мог быць 1965 год — я ня пэўны) над возерам у беларускім рэсорце "Бэлэр-Менск" у штаце Нью-Ёрк. Там мы, старыя харысты Равенскага, выканалі песьню "Міма садзіка" бязь ніякага дырыгэнта, нават ніхто нам не падаваў тону. Выканалі экспромтам. І, трэба сказаць, выканалі без памылкі — так, як хацеў яе чуць сп. Равенскі.

На Гангофэр Зыдлюнгу Мікола Равенскі, апрача сьвецкага й цар-

коўнага хору, не забываўся й пра беларускія традыцыі. Для Вялікодных валачобнікаў ён падрыхтаваў людзей і пайшоў зь імі валачобнічаць. Такі ўжо няпісаны закон, што ў валачобніцтве бяз чаркі не абыйдзецца, і былі некаторыя валачобнікі ўжо добра "пад мухаю", але М. Равенскі да іх не належыў, бо да бутэлькі слабасьці ня меў.

Сп. Равенскі надзвычай любіў дзяцей й любіў, як ён казаў, зь імі падурыцца. І так, падчас валачобнікаў, зайшоўшы ў хату, дзе былі дзеці, сп. Равенскі да іх толькі скажа глыбокім басам "добры дзень, як маецеся", і дзеці з крыкам хаваліся за маму. Тады ён пяройдзе на свой нармальны голас, загаворыць да іх, і дзеці ўжо ўсьміхаюцца да яго. Гэтую сцэнку ён паўтараў амаль у кажнай хаце, дзе былі дзеці. Ведаю, што сп. Равенскі быў жанаты й меў свае дзеці. Мне ён расказаў адзін эпізодзік са свайго сямейнага жыцьця, аднак на тэму ягонае сям'і ён гаварыць не хацеў — проста ўнікаў гэтае тэмы. Прычыны ня ведаю.

З Гангофэр Зыдлюнгу беларускі лягер быў перавезены па суседзтву ў іншы лягер, які проста называлі "казармы", бо гэта й былі калішнія нямецкія казармы. Там, пад адкрытым небам, на пляцы пабудавалі сцэну й ставілі "Купальле", якое паўтаралася празь некалькі дзён. Пастаноўка была вельмі ўдалай, што сьветчыць аб вялікіх мастацкіх здольнасьцях самога пастаноўшчыка, галоўнага кіраўніка й рэжысэра сп-ра Равенскага. У гэтым лягеры М. Равенскі арганізуе жаноцкі ансамбль, які жыхары беларускага лягеру жартаўліва называлі "Ансамбль Дашкевічаў" паколькі ў пераважнай бальшыні ансамбль складаўся із жанчынаў, што былі спародненыя між сабою й належалі да тэй самай сям'і Дашкевічаў.

У 1947 годзе беларускі лягер перавозіцца з Рэгэнсбургу ў Міхэльсдорф каля гораду Кам, каля чэскае граніцы. Аднак тут сп. Равенскаму пабываць доўга ня прыйшлося. У Остэргофэне арганізуецца новы беларуск лягер, і, сп. Равенскі разам з сп. сп. Адамовічам, д-рам Ст. Станкевічам, Кунцэвічам, Вініцкім... пераяжджае ў Остэргофэн, дзе ён арганізуе царкоўны й сьвецкі хор.

У Остэргофэне для сп-ра Равенскага пачынаецца, сапраўды, новае жыцьцё. Там недалёка ёсьць рака Дунай, а сп. Равенскі заўзяты рыбак і тут якраз яму адкрыўся сьвет як рыбаку. Раздабыўшыся на новыя вуды, сп. Равенскі кажную вольную хвіліну ад працы праводзіць на рыбалоўлі. Тут яму таксама пашчасьлівіла прыдбаць сабе й новага сябру ды да таго рыбака ў асобе сп. Лявона Савёнка, зь якім добра падружылі, асабліва, на беразе Дунаю. Як сп. Равенскі потым із жартам расказваў: "хадзілі на Дунай разам і часам вярочаліся з пустымі рукамі разам".

Калісьці ў Остэргофэне, а потым ужо і ў Лювэне, М. Равенскі расказваў вясёлы эпізодзік зь ягонага рыбацтва. Казаў, "пайшлі на Дунай. Я прысеў каля кустоў на беразе й закінуў вуду — лавілі рыбу на жучкоў, а з правага боку ля кустоў прымасьціўся Савёнак. Сядзеў, — кажа, — я доўга і ў мяне нічагусенькі не бярэцца й ня клюе. Ну, думаю, пайду й пагляджу, што-ж робіцца ў Лявона, што

так прыціх і не адзываецца. Падыйшоў, — кажа, — ціхенька, каб рыбу не палохаць. Гляджу, а Лявон сьпіць, а ягоны жучок вылез з вады, узабраўся на камень і грэецца на сонцы".

У Остэргофэне я адведаў сп-ра Равенскага разы чатыры ці пяць. Я ніколі не прапусьціў нагоды, каб да яго не заглянуць.. Гэта таму, што для мяне ён быў нехта спэцыяльны — ён умеў гаварыць з маладымі і ўмеў іх нечым зацікавіць. Для мяне ён быў заўсёды шчыры, заўсёды адкрыты, і ў гутарцы я ніколі ня мог-бы паверыць, што гэты чалавек гаворыць няпраўду.

Першы раз, як я заехаў у Остэргофэн і зайшоў да сп. Равенскага, дык пабачыўшы мяне, ён прывітаўся як са сваім старым і найлепшым сябрам. Папрасіў мяне сесьці за стол, а сам нешта рухаўся па пакоі. У міжчасе ставіў бесьперапынку пытаньні: ці гімназія працуе безь перабояў, як маецца др. Орса, а што робіць дзядзька Міхась Міцкевіч, ці няма сварак у гімназіі, а ці апазыцыя пускае сваіх дзяцей у гімназію...? Я толькі спраўляўся коратка адказваць на ягоныя пытаньні. У міжчасе зьявіўся кілішак перады мною. Сп. Равенскі, наліўшы кілішак, сказаў "выпіце за нашае першае спатканьне ў Остэргофэне". Прычым сам ня выпіў. Што было ў бутэльцы — цяпер не памятаю. Ведаю, што гэта ня была самагонка. З усьмешкаю ён сказаў, паказаўшы бутэльку, "гэта я трымаю для асаблівых гасьцей. Знаеце, гэта я хаваю, бо тут ёсьць такія, што каб ведалі, што маю выпіўку, дык не адчапіліся-б, пакуль ня высушылі-б".

У Остэргофэне я бываў пераважна па скаўцкай лініі — калі ня скаўцкі зьезд, дык нейкая зборка... Вечары праводзілі ў пакоі Аўгена Кавалеўскага "за столікам". Аўген быў спэцыялісты сьпірытычных сэансаў. Там сп. Равенскі заўсёды меў ахвоту падурыцца з маленькім чорцікам. Калі Аўген загадваў хутка прыняць рукі са стала, дык сп. Равенскі прасіў: "хлопцы, калі ласка, ня здымайце рук — я хачу падурыцца з гэтым маленькім чорцікам". Пры "століку" былі заўсёды тыя самыя людзі: Аўген Кавалеўскі, Мікола Равенскі, Ул. Бакуновіч, Янка Рыбнік або Люда Хвалькоўская — у залежнасьці ад таго, хто зь іх быў дома, бо час і ахвоту на гэта яны заўсёды мелі.

У 1949 годзе два беларускія лягеры Віндышбэргэрдорф і Остэргофэн былі злучаныя ў адзін лягер у Розэнгайме, што каля аўстрыйскай граніцы. Тут зноў я спаткаўся са сп. Равенскім. Сьпяваў зноў у царкоўным хоры, якім ён кіраваў. Фактычна толькі ў Розэнгайме я пазнаў сп-ра Равенскага наколькі ён быў добрым кіраўніком хору. Пазнаў таму, што ў міжчасе прыйшлося сьпяваць у розных хорах і пад кіраўніцтвам розных дырыгэнтаў. Хоць царкоўны хор у Розэнгайме быў моцны, але часам "прамазвалі". Сп. Равенскі ніколі не злаваўся — ён умеў супакоіць харыстых, каб не нэрваваліся, і даслоўна за пару сэкундаў зноў была гармонія. Даволі часта людзі ў царкве не заўважалі, што хор зрабіў памылку.

Сьвецкага мяшанага хору ў Розэнгайме ня было. Апрача царкоўнага хору, сп. Равенскі зарганізаваў жаноцкі ансамбль, але пацехі з гэтага ансамблю было мала. Шмат Беларусаў павыяжджалі ўжо

на эміграцыю, а іншыя чакалі свае радоўкі на выезд у пераходных лягерох — ні хору, ні ансамблю ўжо ня было з каго арганізаваць.

У 1950 годзе я з бацькамі й рэштай сям'і выехаў у Аўстралію, а неўзабаве сп. Равенскі выехаў у Бэльгію, у горад Лювэн ды затрымаўся там у беларускім студэнцкім доме аж да самае сьмерці. Там із беларускіх студэнтаў ён зарганізаваў царкоўны й сьвецкі мужчынскі хор. У Лювэне ён расьпісаў Літургію ўключна з мнагалецьцем, і мы гэта сьпявалі ў царкве аж да 1962 году, калі зьліквідавалася беларуская студэнцкая група ў Лювэне. Вячэрняе не напісаў — захутка абарвалася жыцьцё. Паніхіды, напэўна, ня пісаў-бы, бо яе страшэнна ня любіў, і калі часам трэба было адслужыць паніхіду, дык па Равенскім можна было пазнаць, што адбывае шарварак.

У 1954 годзе я з Аўстраліі прыехаў у Лювэн, але Міколы Равенскага ў жывых ужо не засьпеў. Ягонае двухпакаёвае памешканьне ў беларускім студэнцкім доме перабраў а. Робэрт ван Каўэлярт дэ Ўільс, якога мы проста называлі "пэр Робэр". Было сумна, але наракаць ня было на што, і скардзіцца ня было каму.

Паколькі Мікола Равенскі ў мяне займае асабліва пачэснае месца, як чалавек асаблівае павагі й пашаны, дык будучы ў Лювэне я фатаграфаваў усё, што толькі было ім напісана. Зразумела, мне гэта шмат каштавала, асабліва на студэнцкую кішэню. Болей таго: у 1963 годзе перад маім ад'ездам у Амэрыку я прыдбаў рукапіс сьвецкіх песьняў, які М. Равенскі падрыхтаваў да друку. Гэты рукапіс знаходзіцца ў мяне й да гэтага часу.

Ужо будучы ў Амэрыцы я парабіў фотакопіі рукапісу сьвецкіх і рэлігійных песьняў ды разаслаў іх па ўсіх кутках сьвету — кажнаму, хто толькі цікавіўся беларускім мастацтвам, каму толькі дарагая беларуская спадчына. Такім чынам яно ўсё загінуць ня зможа — недзе застанецца, і гэткім парадкам Мікола Равенскі ўвесь не памрэ — ён будзе жыць.

---

**Р. СЕМАШКЕВІЧ**

## ЧАСОПІС "ГОМАН"

### Адам ГУРЫНОВІЧ у Пецярбурзе

### Браніслаў ЭПІМАХ-ШЫПІЛА і яго «Беларуская Хрэстаматыя»

Гаварыць пра беларускі літаратурна-грамадзкі рух — гэта перш-наперш гаварыць пра зьяўленьне і арганізаваную дзейнасьць новага пакаленьня беларускай інтэлігенцыі, якая вырашала розныя пытаньні жыцьця нацыі. У выніку ўздыму дзейнасьці прагрэсыўнай часткі інтэлігенцыі нацыя прыходзіць да вышэйшай ступені разьвіцьця. Перадавая інтэлігенцыя зьяўляецца выразьнікам духоўнага багацьця народу.

Дзейнасьць беларускай інтэлігенцыі спачатку ня была арганізаванай. Для больш поўнай характарыстыкі яе трэба адзначыць адну акалічнасьць. Даўно высьвятляецца адно важнае пытаньне: ці зьяўляецца інтэлігенцыя наагул нейкім аўтаномным і незалежным зьвяном, ці кожная сацыяльная група мае сваю ўласную, асобную катэгорыю інтэлігенцыі? Для тагачаснай Беларусі такое пытаньне ставіцца не магло: у царскай Расеі Беларусь ня мела дзяржаўнасьці.

Іншая справа, што род заняткаў нашых інтэлігентаў-асьветнікаў быў розны. Напрыклад, у Пецярбурзе сярод актыўных сяброў суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца!» былі людзі, якія прысьвяцілі сваё жыцьцё розным навукам, у тым ліку й негуманітарным. Тут мы падыходзім да дваістай дзейнасьці гэтых людзей у дзяржаве, да дзейнасьці, якая робіць гонар усёй беларускай інтэлігенцыі. Паколькі інтэлігенцыя не зьяўляецца самастойнай эканамічна незалежнай клясай, пастолькі яна ня можа мець самастойнай палітычнай сілы або адыграць самастойную палітычную ролю. Шмат перадавых беларускіх інтэлігентаў добрасумленна служыла ў дзяржаўных установах, выконваючы функцыі, накіраваныя на разьвіцьцё і ўмацаваньне дзяржавы, і ў той-жа час яны былі яшчэ й другімі інтэлігентамі — інтэлігентамі духоўнага разьвіцьця грамадзтва, у дадзеным выпадку разьвіцьця беларускага народу. Узяўшыся за вялікую і адказную работу, яны былі людзьмі абсалютна варожымі дагматызму царскіх законаў. Тут ужо была функцыя разбурэньня старога й сварэньня новага. У гэтым асаблівасьць і дваістасьць дзейнасьці людзей, якія стварылі цэлую эпоху адраджэньня роднай культуры, літаратуры. Супрацоўнічаючы з царызмам у аднэй галіне, яны разьбівалі ўстоі царызму ў значна большым пляне й маштабе.

Гаворачы пра значэньне й ролю тагачаснай інтэлігенцыі, нельга абмінуць такога пытаньня: якімі шляхамі йшло яе фармаваньне, як прыгнечаны народ змог вылучыць людзей, якія несьлі яму асьвету й культуру? Зусім зразумела, што вялікі этап духоўнага адраджэньня беларусаў пачынаўся не на пустым месцы, ён меў сваю перадгісторыю. Ёсьць усе падставы сьцьвярджаць, што ён пачынаўся ў тых колах інтэлігенцыі, продкі якой былі выхаваны на гуманістычных традыцыях Ф. Скарыны і яго пасьлядоўнікаў, а пасьля ў выніку палянізатарскай палітыкі Рэчы Паспалітай зьведалі на сабе сыстэматычныя спробы апалячваньня, але не сталі палякамі й захавалі патрыятычныя памкненьні.

Патрыятычныя элемэнты былі яшчэ ў дзейнасьці студэнцкіх арганізацыяў філяматаў і філярэтаў Віленскага ўнівэрсытэту. Больш значна паказала сябе беларуская плынь ці напрамак польскай літаратуры (Баршчэўскі, Рыпінскі, Сыракомля, Вярыга-Дарэўскі). Трэба заўважыць, што першыя пробліскі беларускага культурна- нацыянальнага руху XIX ст. з самага пачатку былі зьвязаны й з рускім вызваленчым рухам.

У той-жа час на беларускі рух аказваў вялікі ўплыў і польскі нацыянальны рух, які зь вялікай сілай разгарнуўся пасьля падзелу Рэчы Паспалітай і стратаў палякамі сваёй палітычнай самастойнасьці. Польскі патрыятызм, які загартаваўся пасьля няўдалага паўстаньня 1831 г., заўладаў і шляхтай, якая жыла на беларускай зямлі. Лічачы Беларусь ускраінай Польшчы, мясцовыя інтэлігенты цікавіліся краем, у якім жылі; цікавіліся ім і інтэлігенты з карэннай Польшчы. Так зьявіліся зьмястоўныя й вядомыя тады манаграфіі польскіх вучоных Тышкевіча, Галэмбоўскага, Нарбута, Ярашэвіча, Ліндэ і інш., прысьвечаныя мове, звычаям народу, помнікам старажытнасьці. Выхадцы са шляхты першымі зьвярнуліся да народу на яго роднай

мове. Між іншым, на прыкладзе Беларусі яшчэ раз пацьвердзілася й стала відавочным, што разьвіцьцё навукі вельмі й вельмі залежыць яшчэ і ад палітыкі. Зьвернемся да некаторых фактаў XIX стагодзьдзя.

На беларускай глебе вырасла немалалікая галіна польскай этнаграфічнай і фальклёрнай навукі, якая была беларускай па паходжаньню й сутнасьці. Уздым яе азначаў, што вядучым колам польскай нацыі патрэбна было вывучаць Беларусь, каб лягчэй давесьці, што гэта край польскі. Нездарма нават і ў каштоўных навуковых дасьледаваньнях таго часу знаходзім нямала тэндэнцыйных канцэпцыяў і выказваньняў. Гэта-ж адносіцца ў роўнай ступені й да прадстаўнікоў беларускай плыні расейскай фальклярыстыкі. Сёньняшнія дасьледчыкі, падымаючы гэтае пытаньне, звычайна пакідаюць яго адкрытым. Заўважым, што гэтая плынь невыпадкова пачала разьвівацца зь сярэдзіны 60-ых гг. XIX ст. Тады на Беларусі адбыліся падзеі, зьвязаныя з паўстаньнем 1863 г., якія зьвярнулі на сябе вялікую ўвагу царызму. Іменна пасьля гэтага зьявіліся «Матэрыялы да геаграфіі і статыстыкі Расеі, сабраныя афіцэрамі генеральнага штабу», якія былі прысьвечаны Беларусі, а пасьля цэлы шэраг другіх працаў.

І яшчэ адзі факт. У той час, калі царызм жорстка забараняў усе спробы выданьня беларускіх кнігаў, ніякіх асаблівых перашкод для друкаваньня фальклёрных матэрыялаў ня было. Вядома, гэтыя працы каштоўныя для нас, але царызм, які навадніў Беларусь чыноўнікамі, меў на мэце другое — вывучыць край, каб адціснуць польскі элемэнт у ім і насадзіць расейскі. Больш таго, было імкненьне давесьці, што духоўныя багацьці беларусаў не зьяўляюцца самабытнымі. Асюль ідуць усе абмежаваньні праяў разьвіцьця духоўных багацьцяў, у прыватнасьці, забарона выданьняў арыгінальнай мастацкай літаратуры. Указ царызму пасьля паўстаньня 1863 г. так і называўся «О водворении русского элемента в Северо-Западном крае».

Для нас сёньня цікавыя наагул не так царскія ўказы, як вынікі работы беларускіх фальклярыстаў, напрыклад, такіх, як П. Шэйн, Е. Раманаў, М. Янчук, У. Дабравольскі. А тое, што іх праца не сустрэла адпаведнай палітычнай перашкоды — вынік канкрэтнай палітычнай ідэі. Аднак гэтая ідэя абярнулася для царызму, а дакладней, для яго афіцыйнай навукі нечаканым вынікам: яна паказала ўсё вялікае духоўнае багацьце беларусаў. Трэба сказаць, што нават некаторыя зь вядучых фальклярыстаў, якія дасканала ведалі беларускі народ, адмоўна адносіліся да магчымасьці нацыянальнага ўздыму беларусаў. Яны проста акуратна дасьледавалі й вывучалі яго фальклёр. Па сьведчаньню Б. Эпімах-Шыпілы, такую пазыцыю займаў, напрыклад, Е. Раманаў. У пазьнейшы час даволі складаную й нявызначаную пазыцыю займаў нават заснавальнік беларускай філялёгіі Я. Карскі.

Карацей кажучы, ва ўсіх навуковых перыпетыях і плынях наконт пытаньня аб лёсе Беларусі пацьвердзіліся словы М. Чарнышэўскага аб тым, што «навуковыя трактаты служаць водгукам гістарычнай барацьбы, маюць на мэце затрымаць ці паскорыць ход падзеяў». Гэты невялікі экскурс спатрэбіўся для таго, каб падкрэсьліць, што ў XIX ст. у сувязі з асаблівасьцямі гістарычнага лёсу першымі актыўна зацікавіліся беларускім народам, а таксама пачалі зьвяртацца да яго на беларускай мове выхадцы з напаўпалянізаванай шляхты.

Шляхта адыграе яшчэ сваю ролю ў гісторыі нашай культуры й літаратуры. Гэта яна ў канцы XIX ст. вылучыць першых беларускіх інтэлігентаў, якія ня будуць ужо зьвязаны зь мінулым ні гістарычнымі забабонамі аб перавазе адных суседзяў сваёй краіны над другімі, ні вялікімі маёмаснымі, эканамічнымі магчымасьцямі

і абавязкамі. На самым пачатку разьвіцьця нацыянальна-вызваленчага руху беларускае сялянства, зразумела, ніяк не магло вылучыць інтэлігенцыю са свайго асяродзьдзя, непасрэдна з самых нізоў, бо само становішча не стварала такіх умоў, тым больш магчымасьцяў. Вышэйшай ступеньню духоўнага жыцьця заставалася вуснапаэтычная народная творчасьць.

Да канца XIX ст. шляхта стала ўжо ня той шляхтай, якой была яна на пачатку стагодзьдзя, бо зусім страціла сваё былое палітычнае значэньне, якое мела ў дні існаваньня Рэчы Паспалітай і ў першыя часы пасьля яе падзелу, таму што эканамічны стан шляхты пачаў усё менш і менш адрозьнівацца ад эканамічнага стану сялянства. Буйная сельская гаспадарка пачала перабудоўвацца ды прыладжвацца да новых эканамічных умоў. Буйныя землеўласьнікі, разьвіваючы сельскагаспадарчую прамысловасьць, ставілі навакольных суседзяў, эканамічна больш слабых, у поўную залежнасьць ад сябе. Гэта прывяло шляхту да зьбядненьня й паставіла яе амаль на адну ступень зь сялянствам. Аднак патрэба асьветы, адукацыі, цяга да вышэйшага культурнага жыцьця ў выхадцаў з гэтага асяродзьдзя засталася, яна перадавалася па гістарычнай традыцыі.

Таму шляхта, [redacted] яна была дэнацыяналізаваная ў значна меншай ступені, чым панства, як і раней, старалася даць свайму новаму пакаленьню адукацыю, але гэтае новае пакаленьне ўжо істотна адрозьнівалася ад ранейшых. Найбольш перадавая, прагрэсыўная частка яе не ўспрыняла традыцыйнай пагарды да селяніна, да народу, сярод якога выхавалася, таму [redacted] мела ўсе падставы лічыць сябе прадстаўнікамі гэтага народу, змагла ўсьвядоміць свае заданьні і абавязкі.

Ня трэба думаць, што працэс ішоў стыхійна. Мелі яшчэ ўплывы і ідэі народніцтва, якія ў той час набылі немалую папулярнасьць. Да таго-ж, у сувязі са сваім гістарычным лёсам шляхта адчувала сябе, акрамя ўсяго, яшчэ й пакрыўджанай. Частка інтэлігенцыі на Беларусі спрабуе вызначыць свае гістарычныя карэньні. Францішак Багушэвіч, Адам Гурыновіч, Браніслаў Эпімах-Шыпіла, Юрка Іваноўскі, Браніслаў Тарашкевіч — вось прозьвішчы толькі пяці да прыкладу ўзятых людзей, якія паходзілі са зьбяднелай шляхты і якія пакінулі першыя значныя сьляды ў гісторыі нашай літаратуры й культуры пасьля некаторага застою ў разьвіцьці гэтых галінаў жыцьця. Было, вядома, і шмат іншых прадстаўнікоў.

Непасрэдна з самых сялянскіх нізоў у беларускую інтэлігенцыю пачалі ўлівацца сілы толькі недзе пасьля рубяжа XX ст. калі Расея стаяла напярэдадні вялікіх рэвалюцыйных перамен... Рэвалюцыйнасьць на ўскраінах царскай Расеі была больш марудным і паступовым водгукам іх на бурлівае жыцьцё цэнтраў краіны, водгукам, які ўскалыхнуў сялянства, прыцягнуў яго да больш сьвядомага і актыўнага грамадзкага жыцьця, абудзіў нараканьне на гэтае жыцьцё, цягу да пазнаньня яго, да асьветы.

Адзначым і вострую палітычную барацьбу, якая разгарнулася вакол сялянскага пытаньня паміж рознымі палітычнымі партыямі. Спробы дэнацыяналізацыі беларускага працоўнага сялянства ўзьніклі значна пазьней, чым пытаньне дэнацыяналізацыі маёмасных клясаў. Гэтае пытаньне паўстала ў пэрыяд, калі само сялянства ў выніку духоўнага разьвіцьця ва ўмовах парэформеннага 40-годздзя й рэвалюцыі 1905 г. пачало заяўляць аб сабе як беларускае сялянства. Падаўленьне рэвалюцыі, такім чынам, не мысьлілася царскімі сатрапамі без выкарчоўваньня новых ідэяў. Але ўсе захады такога характару пацярпелі крах — сялянства змагло знайсьці ў сабе сілы, каб супроцьстаяць дэнацыяналізацыі. Вялікія й складаныя пэрыпетыі

палітычнай барацьбы ўзрушвалі грамадзкую думку ня толькі ў колах, блізкіх да грамадзка-палітычнага руху, але і ў самых сялянскіх нізах. Гэтаму, несумненна, паспрыялі й зерні ідэй, пасеяныя інтэлігенцыяй.

Беларускі літаратурна-грамадзкі рух у Пецярбурзе быў рухам ня толькі інтэлігентаў — выхадцаў з народу, але й беларусаў, рабочых пецярбурскіх заводаў і фабрыкаў. Рабочыя прымалі ўдзел у гэтым руху разам зь інтэлігенцыяй, вялі работу ў тым-жа напрамку, што і інтэлігенцыя. Гэта быў рух сацыяльна-палітычны, непасрэдна зьвязаны з праблемамі сацыяльнага й нацыянальнага вызваленьня. Асаблівасьць беларускага руху ў Пецярбурзе ў тым, што ён хоць і адбываўся ў сталіцы Расеі быў зьвернуты ўсё-ж да беларускага народу.

Выхаваньне старэйшым пакаленьнем інтэлігенцыі малодшага пакаленьня, выданьне кніг, уклад у сцэнічнае мастацтва, разьвіцьцё айчыннай літаратуры, асабліва публіцыстыкі, дзе вырашаліся актуальныя праблемы жыцьця — гэта ўсё, хоць і праводзілася інтэлігенцыяй удалечыні ад Беларусі, але праводзілася народнай інтэлігенцыяй і было глыбоканародным у сваёй аснове.

Дзейнасьць нашай інтэлігенцыі ў Пецярбурзе на самым сваім пачатку не была дзейнасьцю шырокай і арганізаванай.

Яшчэ зь сярэдзіны XIX ст. сустракаюцца асобныя праявы яе, якія, праўда, найчасьцей за ўсё ня былі зьвязаны між сабою. Аднак і яны пакінулі пэўны сьлед і ў гісторыі нашай культуры, і ў біяграфіі вядомых людзей. Так, у 1844-1846 гг. у Пецярбурзе выдаваў на польскай мове чатырохтомны зборнік «Шляхціц Завальня» адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Ян Баршчэўскі. Гэты твор, напісаны на аснове беларускага фальклёру, прасякнуты вялікай сымпатыяй да беларускага народу, што для свайго часу таксама было немалой падзеяй.

Зь пецярбурскімі тайнымі гурткамі зьвязана фармаваньне рэвалюцыйнага сьветапагляду трох братоў Каліноўскіх — Кастуся, Віктара й Балтазара. Кастусь Каліноўскі ў Пецярбурзе ў 1856-1861 гг. наладзіў цесныя сяброўскія сувязі з многімі будучымі дзеячамі паўстанцкага руху ў Беларусі й Жамойці. Гэта сьведчыць, што ўжо сама перадгісторыя руху мела асновай яднаньне людзей розных нацыянальнасьцяў.

У студэнцкіх хваляваньнях 1861 г. у Пецярбурскім унівэрсытэце прымаў удзел Ф. Багушэвіч.

Зыходным пунктам беларускага літаратурна-грамадзкага руху ў Пецярбурзе ў канцы XIX ст. трэба лічыць гурток беларусаў-народавольцаў «Гоман», арганізаваны ў 1881 г. Актыў яго складалі пецярбурскія студэнты-беларусы на чале з А. Марчанкам з Мсьціслаўшчыны й Х. Ратнэрам са Шклова. Ад дзейнасьці «Гоману» да нас дайшла невялікая колькасьць гэктаграфаваных выданьняў і два нумары часопісу такой-жа назвы, які быў органам гуртка. Часопіс выпускаўся падпольна на расейскай мове. Першы нумар датаваны 1884 г., другі — 15 лістапада 1884 г.

Па матэрыялах часопісаў мы можам меркаваць аб ідэях, якімі жылі гоманаўцы, якія сталі надзённымі для іх. У адным навуковым артыкуле адзначалася, што арганізатарам гэтай групы быў І. Грынявецкі, сам нарадаволец і тыраназабойца 1881 г. Яшчэ больш пераканаўчай здаецца заўвага з заключнага артыкулу другога нумару «Гоману», у якой пішацца: «З «Народнай воляй» мы ўжо зьвязаны традыцыямі: Грынявіцкі, бомбай якога пакараны Аляксандар II, быў адным з гарачых заснавальнікаў беларускай мясцовай фракцыі» («Гоман», № 2). Якія былі настроі ў перадавой беларускай інтэлігенцыі, якія думкі хвалявалі яе?

Гоманаўцы засьвядчаюць той факт, што ў 80-я гг. пачалося ажыўленае зацікаўленьне Беларусьсю, што «сярод самой беларускай інтэлігенцыі ўтварылася шмат гурткоў, а разам з тым столькі-ж поглядаў на практычнае вырашэньне беларускага пытаньня» («Гоман», № 2).

Галоўнае, што вылучаецца ў «Гомане», — гэта новае разуменьне й падыход да нацыянальнага пытаньня ў тагачаснай Расеі.

Заданьне часопісу, а значыць і арганізацыі, сфармулявана ў перадавым артыкуле «Ад рэдакцыі», дзе гаворыцца: «Наш ворган мае на ўвазе галоўным чынам служыць выразьнікам тых ідэяў, якія цыркулююць у сучасны момант сярод сацыяльна-рэвалюцыйнай групы беларусаў, што зусім нядаўна ўступіла на поле дзейнасьці ў сябе на Радзіме і атаясаміла свае інтарэсы зь інтарэсамі беларускай народнасьці. Сярод ідэй, выстаўленых гэтай групай, галоўнае месца займае прынцып абласной самастойнасьці як аснова будучага свабоднага фэдаратыўна-палітычнага ладу, які павінен заняць месца сучаснага абсалютызму» («Гоман», № 1).

Гоманаўцы ўсьвядомілі адну з асноўных складанасьцяў лёсу Беларусі, чым паказалі сваё дакладнае і яснае, не сапсаванае тэндэнцыйнасьцю, канкрэтнае разуменьне гісторыі. «З усіх народнасьцяў, якія ўваходзяць у склад сучаснай Расеі, лёс беларусаў, як вядома, асаблівы тым, што на іх ужо з даўніх часоў прывыклі глядзець, як на некаторы матэрыял для разнастайных экспарымэнтаў, а не як на жывую народнасьць, якая здольна самастойна кіраваць сабою. Зыходзячы з гэтага пункту гледжаньня, бліжэйшыя суседзі беларусаў, карыстаючыся правам мацнейшага, рабілі над імі свае досьледы і бесцырымонна накладалі жорсткія рукі на жывы арганізм беларускай народнасьці, вырашыўшы, што яна павінна пакорліва падпарадкавацца мацнейшым і асымілявацца зь імі, растварыўшыся ў вялікарускім ці польскім моры» («Гоман», № 1).

Адносячы сябе да беларускай сацыяльна-рэвалюцыйнай групы ў партыі «Народная воля», гоманаўцы ўсьведамляюць, што шлях барацьбы за пастаўленыя ідэалы ня будзе простым. Такі шлях вынікаў ня толькі з таго, што царызм прымаў самыя жорсткія меры для падаўленьня ўсяго перадавога. Ён вынікаў яшчэ і з рознасьці поглядаў на гэтае пытаньне нават унутры сіл, апазыцыйных царызму, бо пытаньне зьяўлялася даволі новым, неасвоеным, нераспрацаваным тэарэтычна й практычна.

Галоўная праблема, якую ставіць «Гоман» перад беларускімі перадавымі грамадзка-палітычнымі дзеячамі, — праблема прагрэсыўнага разьвіцьця Беларусі на аснове фэдаратыўнай самастойнасьці ў рамках шматнацыянальнай Расеі, дзе ўсе народы будуць злучаны на роўных і свабодных умовах. «Цяперашні гістарычны момант зьяўляецца найбольш зручным для абуджэньня Беларусі, якая пры дружнай рабоце й барацьбе нашай інтэлігенцыі перародзіцца для новага самастойнага жыцьця й зойме месца сярод іншых фэдарацыяў Расеі на пачатках свабоднага пагадненьня зь імі» («Гоман», № 2).

Вядома, адно з памылковых палажэньняў позьняга нарадавольства аб вядучай і рашаючай ролі інтэлігенцыі пры ажыцьцяўленьні вялікіх гістарычных зьмен у прыведзенай вышэй цытаце ёсьць. Але лягчэй за ўсё высьвятліць падзеі таго часу цяпер, калі яны ўжо сталі гісторыяй, калі бачны тыя шляхі, па якіх пайшла нацыянальна-вызваленчая барацьба, калі зразумела, як усталёўвалася дзяржаўнасьць Беларусі. Тут галоўнай здаецца сама пастаноўка пытаньня аб лёсе Беларусі. А сутнасьць зводзіцца да таго, што беларускі народ мае ўсе правы на самавызначэньне, на фэдаратыўную самастойнасьць. Для свайго часу гэта вельмі сьмелая, новая й

важная думка, бо айчынная гісторыя падае безьліч сьведчаньняў, што з далёкіх часоў, пасьля ўпадку Вялікага Княства Літоўскага, нават самыя невялікія спробы зрабіць што-небудзь для разьвіцьця ня толькі беларускай грамадзкай думкі, але й чыста мясцовай (нават без паказваньня на нацыянальнае аблічча) патрыятычнай думкі сустракала вялікія палітычныя перашкоды. Тым больш, што пасьля паўстаньня 1863 г. зь яго нацыянальна-вызваленчымі імкненьнямі прайшло ўсяго дваццаць год. У дзейнасьці Каліноўскага выяўляліся ідэі да фэдаратыўнай сувязі Беларусі з Польшчай.

Праз дваццаць год пасьля Каліноўскага «Гоман» таксама выступае за неабходнасьць вылучэньня Беларусі як этнаграфічнай адзінкі, але ўжо ў межах фэдаратыўнай Расеі. Царызм ня прымаў афіцыйна нават і гэтай думкі — яна выказана ў падпольным выданьні.

Прасочым, чым кіраваўся «Гоман», каб абгрунтаваць галоўную ідэю. Па-першае, даецца агульнатэарэтычная ўстаноўка аб характары сапраўды здаровых і разумных адносін паміж вялікімі й малымі нацыямі, якія павінны былі-б быць у любой дзяржаве: «Усякая таму нацыя, якая-б яна слабая ні была, заслугоўвае поўнага прызнаньня яе самастойнасьці, і ўсякую спробу з боку іншых нацыяў падавіць гэтую слабую суседку трэба прызнаць шкоднай ня толькі для гэтай слабой нацыі, але й для самой прыгнятальніцы, якой-бы зручнай прычынай яна ні матывалася... калі нацыя, гавораць вузкія нацыяналісты, не здолее абараніць сваю самастойнасьць, або валодае слабой культурай або слабой фізычнай сілай, дык яна павінна быць пакорана іншай нацыяй, моцнай. Мы-ж думаем, што такую нацыю трэба падтрымаць і даць ёй магчымасьць стаць на ногі для таго, каб свабодна праявіць сябе» («Гоман», № 2).

Гэты тэзіс быў і застаецца правільным, глыбокадэмакратычным у сваёй аснове. Па-другое, насуперак многім гістарычным традыцыям, тым больш афіцыйнай думцы, «Гоман» заяўляе аб беларусах, як аб аднэй з самабытных славянскіх нацыяў: «Гэта краіна мае ўсе арыгінальныя асаблівасьці, якія надаюць ёй своеасаблівую фізіяномію й самым натуральным чынам вылучаюць яе як асаблівую галіну славянскага племя... Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што Беларусь мае сваю асаблівую мову... Беларуская мова з часам можа атрымаць такое-ж права грамадзянства, як і мова маларуская...» («Гоман», № 2).

Такім чынам, у «Гомане» пераканаўча засьведчаны наступныя сацыяльныя і нацыянальныя зьявы тагачаснай Расеі: манархічны абсалютызм у агульнадзяржаўным аспэкце, прыгнёт расейскага вялікадзяржаўнага шавінізму й польскага нацыяналізму ў адносінах да Беларусі, недастатковая арганізаванасьць прагрэсыўных сіл тагачаснай Расеі і, упрыватнасьці беларускіх сацыяльна-рэвалюцыйных груп.

«Гоман» патрабуе свабоднага фэдаратыўна-палітычнага ладу ў шматнацыянальнай Расеі, які забясьпечыць раўнапраўе ўсім нацыям; часопіс даказвае нацыянальную самабытнасьць беларускага народу; ён бярэ на сябе заданьне кансалідацыі ўсіх прагрэсыўных беларускіх сілаў («...мы спадзяемся, што наш орган будзе мець кіруючае значэньне ў сучасным беларускім руху»... («Гоман», № 1).

Значэньне «Гоману» ня толькі ў тым, што ён паставіў сьмелую для свайго часу праблему й раскрыў сутнасьць становішча, але і ў тым, што часопіс дае канкрэтныя й практычныя ўстаноўкі для ажыцьцяўленьня намечанай праграмы. Асноўныя палажэньні рэалізацыі дзейнасьці «Гоману» выкладзены ў першым нумары часопісу ў артыкуле «Аб зачэньні й ролі мясцовых рэвалюцыйных групаў у момант пасьля

палітычнага перавароту да ўстанаўленьня пастаяннай формы кіраваньня». Аўтар артыкулу лічыць ня толькі неабходным, але і абавязковым існаваньне мясцовых, тэрытарыяльных арганізацыяў сацыялістычных партыяў і, задаўшы пытаньне «Нашто-ж цяпер пачынаць выданьне спэцыяльна беларускага воргану й тым больш арганізацыю абасобленай беларускай рэвалюцыйнай групы?», даказвае, што гэта прынясе толькі карысьць сацыялістычнаму руху. На мясцовыя арганізацыі ўскладаецца заданьне кіраваць уладай на месцах у першы момант і пасьля палітычнага перавароту: «Мы бачым у абасабленьні й правільнай арганізацыі мясцовых рэвалюцыйных груп залог і неабходную ўмову трываласьці й паўнаты посьпеху рэвалюцыі ў Расеі ў інтарэсах сацыялістычнай партыі». Цэласнасьць сацыялістычнага руху праз адзінства мясцовых партыяў розных раёнаў, розных нацыянальнасьцяў у эпоху, калі «неабходны згуртаванасьць і салідарнасьць усяго таго, што пратэстуе ў дзяржаве» — такі галоўны вывад часопісу па пытаньню агульнадзяржаўнай барацьбы супраць царызму. «Усе плямёны прыгнечаны адным ворагам — бяздушным паліцэйскім рэжымам, і ўсе яны павінны змагацца супраць гэтага ворага». І ў гэтым пытаньні, пытаньні рэвалюцыйнай барацьбы, «Гоман» падкрэсьлівае нацыянальны момант, скарыстоўваючы прыклады сацыяльных і рэвалюцыйных зьяў, праводзячы думку, што для беларускіх змагароў, якія будуць весьці сваю працу на беларускай глебе, неабходна, каб была свая партыя, свой друкаваны ворган.

Названы артыкул зьяўляецца адным з самых цікавых і найбольш значных у часопісе. Трэба сказаць, што ён закранае больш шырокае кола праблем, чым гэта вызначана самой пастаноўкай пытаньня аб мясцовых рэвалюцыйных групах і ўключае ў сябе нават пытаньні тактыкі барацьбы з самаўладзтвам і далейшага лёсу народаў Расеі. «Гоман» канкрэтна ставіць пытаньне аб тым, хто павінен на самай справе й хто будзе імкнуцца заняць месца скінутага царызму. Асабліва небясьпечнай часопіс лічыць дзейнасьць лібэралаў, якія захочуць выкарыстаць ліквідацыю самадзяржаўя ва ўласных мэтах. У «Гомане» — адным зь першых рэвалюцыйных выданьняў перад пачаткам трэцяга, пралятарскага пэрыяду вызваленчай барацьбы — даецца рашучы адпор лібэралізму і яго свабодзе...

Вядома, у «Гомане» знайшло сваё месца пераўвялічаньне ролі інтэлігенцыі ў рэвалюцыйнай барацьбе. Але значэньне ідэяў і сама пастаноўка пытаньня рэдакцыяй часопісу вельмі важная й значная. Важная, таму што, па-першае, яна засьведчыла сабой зьяўленьне з гушчы беларускага народу людзей, якія пад уплывам перадавых ідэяў таго часу загаварылі ад імя гэтага народу пра свае патрабаваньні ў сацыяльным і нацыянальным аспэкце. Важна й тое, што нацыянальныя патрабаваньні ўзьніклі на сацыяльнай глебе, выцякалі з разуменьня эканамічнага й палітычнага становішча беларусаў. Многія выказваньні «Гоману», у прыватнасьці, аб фэдэратыўнай самастойнасьці Беларусі ў рамках Расеі, зьдзіўляюць сваёй сьмеласьцю [redacted] не адносяцца да палітычнага рамантызму, бо яны ўвабралі ў сябе ідэі папярэдніх палітычных шуканьняў. (...)

Часопіс вёў таксама барацьбу з рознымі дробнабуржуазнымі й лібэральнымі групоўкамі, якія на пачатку распаўсюджваньня сацыялізму ў Расеі сталі тормазам пры рэвалюцыянізацыі масаў. Гэтаму пытаньню прысьвечаны у першым нумары часопісу артыкул «Адозва канстытуцыяналістаў».

У часопісе чытаем: «У мінулым сьнежні (г. зн. сьнежні 1883 г.) зьявілася «адозва групы рускіх канстытуцыяналістаў» да... людзей, якія імкнуцца ці, зрэшты, спачуваюць зьнішчэньню ў нас палітычнага прыгоннага права» («Гоман», № 1).

«Гоман» цытуе праграму гэтай лібэральнай партыі, якая гучыць так: «Праграма наша простая і ясная. Яна заключаецца ў наступным. 1. Скліканьне прадстаўнікоў расейскай зямлі ў асобную нарадчую ўстанову, у якой павінны адкрыта абмяркоўвацца ўсе законы, праекты й штогадовы каштарыс даходаў і расходаў. Імператар можа згаджацца з думкай большасьці; абраны ім погляд мае сілу закону. 2. Свабода веравызнаньня й зьнішчэньне папярэдняй і карнай цэнзуры... «Мы прызнаем неабходнасьць і шырокіх эканамічных пераўтварэньняў у інтарэсах рабочых масаў, і рэформы мясцовага самакіраваньня, у сэньсе расшырэньня сялянскага прадстаўніцтва, але гэтыя складаныя й вялікай важнасьці задачы могуць быць вырашаны толькі пры ўдзеле грамадзтва, гэта значыць пасьля таго, як адбудзецца пераўтварэньне нашага палітычнага ладу».

Гэта тыпова лібэральная праграма позьняга народніцтва з надзеямі на рэформы й добразычлівасьць ад урадавых колаў знайшла паўнейшую абгрунтаваную крытыку на старонках «Гоману». Дзеячы «Гоману» бачаць усю ілюзорнасьць гэткіх прапаноў для сацыяльных зьмен у абставінах таго часу. Паступовая эвалюцыянізацыя масаў і канчатковае зьвяржэньне царызму — вось галоўная думка, якую выказвае «Гоман».

Зразумела, і «Гоман» не да канца высьвятляе ўсе заканамернасьці й цяжкасьці рэвалюцыйнай барацьбы, але галоўнае, што ў часопісе рашуча разьбіваецца тактыка легальнай згоды з царызмам, пераканаўча і ярка даказваецца заганнасьць такога шляху.

«Гоман» піша наконт гэтага: «Нас не магло не парадаваць, што і расейскія лібэралы ўсьведамілі нарэшце неабходнасьць выступіць з адкрытым пратэстам «супраць змрочнага й бессаромнага дэспатызму». Але «простая і ясная» праграма канстытуцыяналістаў здаецца нам ва ўсіх пунктах неабгрунтаванай: яна то простая, нават праз меру простая, але мы сумняваемся, каб яна была для каго-небудзь яснай у сэньсе рацыянальнасьці. Не ўваходзячы тут у падрабязны разгляд выстаўленай у звароце праграмы, заўважым, што нас у гэтай праграме дзівіла яе беспраграмнасьць, калі можна так выказацца. Гэта не праграма, а тры ўрыўкі бяз сувязі, наўгад выбраныя зь лібэральнай праграмы».

Зьнішчыўшы такім чынам нават саму аснову пабудовы зыходных установак канстытуцыяналістаў, «Гоман» разьбірае кожны пункт паасобку й паказвае ілжывасьць і штучнасьць прапанаваных мераў. З асуджэньняў «Гоману» можна зразумець, што ў дзеячоў часапісу ёсьць адчуваньне мінімуму і максімуму сацыяльных і нацыянальных патрабаваньняў, правільны й сьвядомы падыход да рэчаў.

Нельга не адзначыць вострага журналісцкага бляску, зьедлівай палітычнай іроніі, якія характэрны для праграмы. Вось некалькі прыкладаў:

«Ня думаем, каб «пытаньні й беды», якія набалелі расейскаму народу, былі станоўча вырашаны ўстановай, сябраў якой добраахвотныя прадстаўляюць у паліцэйскі ўчастак за размовы пра ўнутраную палітыку... Акрамя таго, пры велічыні дзяржаўнай тэрыторыі й разнавіднасьці мясцовых інтарэсаў... ураду заўсёды ўдаецца, пры вядомых несумленных хітрыках зь яго боку, прыцягнуць прадстаўнікоў незацікаўленых вобласьцяў на карысьць мераў, якія ідуць у разлад з патрэбамі зацікаўленых».

«Зьнішчэньне цэнзуры і амністыі могуць мець значэньне толькі пры зьнішчэньні дэспатызму наагул, а гэта канстытуцыяналісты замоўчваюць».

Пры бескантрольным уладарстве дэпартамэнту дзяржаўнай паліцыі над усёй

расейскай дзяржавай можна й бяз цэнзуры зацiснуць рот непаслухмяным пiсьменьнiкам, а вызваленых дзяржаўных злачынцаў зноў пасадзiць у «сьвiнцовыя труны» Петрапаўлаўскай крэпасьцi. Незразумела для нас яшчэ, чаму канстытуцыяналiсты, адобрыўшы свабоду веравызнаньня з кампэтэнцыi народнай установы, не ўспамiнаюць зусiм пра свабоду мовы.

Як бачым, «Гоман» ня толькi праводзiў у жыцьцё шэраг новых iдэяў, сапраўды неабходных грамадзтву таго часу, асаблiва грамадзтву беларускаму, але й даваў рашучы адпор грамадзкiм зьявам агульнадзяржаўнага характару, якiя былi ўжо анахранiчнымi прагрэсу рэвалюцыйнага руху цi проста шкоднымi для яго.

Значнасьць «Гоману» ў тым, што стваральнiкi яго адчувалi пад сабой грунт свайго беларускага паходжаньня. Думаецца, што гэта ўсьвядомленасьць бярэ пачатак ад iдэяў народнiцтва, якiя шырока прапагандавалiся ў свой час. Адчуць гэты грунт, усьвядомiць яго дапамагалi цэнтры грамадзка-палiтычнай думкi таго часу. У дадзеным выпадку гэта быў Пецярбург. Справа, вядома, не ў тым цi iншым месцы, дзе найбольш ярка й канкрэтна выявiлiся важныя фактары. Зрэшты, на тагачаснай Беларусi з-за звычайнага правiнцыялiзму яшчэ напаўфеадальнага характару iм амаль немагчыма было выявiцца. Для гэтага спатрэбiцца яшчэ нейкi адрэзак часу. (...)

Але важнае значэньне ўплыву народнiцтва на «Гоман» у тым, што iдэя збліжэньня з народам у часопiсе выклiкае вострую пастаноўку праблемаў пра лёс тагачаснай Беларусi, пастаноўку не ў аспэкце народнiцтва, а пад уплывам руху першых сацыял-дэмакратычных сiлаў.

Апошняя акалiчнасьць пазбавiла часопiс сэпаратызму, нацыянальнай абмежаванасьцi, размова пра грамадзтва вядзецца ў агульнадзяржаўным маштабе. Так, у разьдзеле «Карэспандэнцыi», дзе зьмешчаны вялiкiя допiсы зь Вiльнi, Пецярбурга, Кiева, Вiцебска, Харкава, апiсваючы вiленскае жыцьцё, «Гоман» становiцца на абарону польскай мовы. «Можа быць, будучыя рэпрэсii штурхнуць iх (жыхароў гораду) на шлях барацьбы, але цяпер пакуль што толькi чуем падземны гул незадаволенасьцi. Мiж тым, як мы бачым, абсалютызм нiчога не саромееца [redacted] сам сабе рыхтуе хуткую пагiбель нахабствам сваiх мерапрыемстваў. Напрыклад, летам тутэйшыя жыхары са зьдзiўленьнем убачылi ва ўсiх урадавых установах аб'яву аб тым, што «гаварыць па-польску забаронена» («Гоман, № 1).

Калi справа датычыць адносiн расейцаў з палякамi, «Гоман» робiць пэўныя вывады [redacted] наконт беларусаў, бо ад адносiн з суседзямi залежыць i iх лёс. Напрыклад, у гэтай-жа караспандэнцыi «Гоман» пiша далей: « Абсалютызм да таго тупы, што не ў стане зразумець таго, што чым больш будзе прасьледавацца палянiзм, тым глыбей ён будзе ўкараняцца. Для нас, для беларусаў, гэта барацьба дзьвюх сiлаў шкодная, бо разгар страсьцяў не дазваляе карэнным жыхарам мець спакойны роздум аб сваiм становiшчы ў краi. Калi-б вялiкарускi ўрад пакiнуў беларускiх палякаў (г. зн. беларусаў-католiкаў) у спакоi, то яны-б, напэўна, самi пакiнулi свой выключна польскi пункт гледжаньня» («Гоман» № 1).

Гэтыя штрыхi гавораць пра глыбiню зацiкаўленасьцi часопiса праблемамi нацыянальных адносiн у Расеi.

У разьдзеле «Карэспандэнцыi» часопiс спэцыяльна публiкуе тыя факты, якiя сьведчаць пра нарастаньне рэвалюцыйнай барацьбы, пра бюракратызм дзяржаўнага апарату, палiцэйскi тэрор — наагул, шмат фактаў, якiя кампрамiтуюць уладу. Часта робяцца даволi значныя i арыгiнальныя вывады. Так, апiсваючы забойства

шэфа пецярбурскай тайнай паліцыі галоўнага шпіёна Расеі Судзейкіна, «Гоман» піша: «Пакланіцца яго праху, за яго труной, акружанай сышчыкамі, ішлі міністры — і між імі міністар народнай асьветы й вышэйшыя чыноўнікі. Сама імператрыца прыслала вянок на труну шпіёна. Такім чынам, у гэтай маніфэстацыі ясна выказалася поўнае атаясамленьне ўраду зь ідэяй шпіёнства («Гоман», № 1).

У артыкуле, якім адкрываецца другі нумар часопісу, адзначаючы заслугі партыі «Народная воля» ў барацьбе з царызмам, «Гоман» вядзе сур'ёзную, абгрунтаваную палеміку з ворганам партыі «Весьці народнай волі», які пісаў аб «недарэчнасьці» й «штучнасьці» ідэі разьвіцьця нацыянальнасьцяў. «Якімі-б вялікімі не былі гэтыя цяжкасьці, мы, наколькі гэта будзе ў нашых сілах, закладзем першы камень для фундамэнту фэдэратыўнай самастойнасьці Беларусі», — пішацца ў заключэньні артыкулу, і гэту задачу арганізацыя «Гоману» лічыць галоўнай.

У разьдзеле «Унутраны агляд» паказаны жахлівы вобраз самаўладзтва ў заходніх губернях Расеі, ваеннага становішча й рэпрэсіяў. «Гоман» бачыць вытокі такога становішча: «Пад шыльдай выкараненьня палянізму яны выкараняюць усё жывое ў краі, усякую праяву свабоднага жыцьця».

Наагул, «Гоман» у беларускай грамадзка-палітычнай думцы XIX ст. вылучаецца пасьля «Мужыцкае праўды» Каліноўскага як самы баявы і актыўны ворган рэвалюцыйнай барацьбы беларусаў на новым этапе яе разьвіцьця.

Вядома, што ідэі гэтай арганізацыі пры далейшым разьвіцьці вызваленчага руху атрымалі сваё больш абгрунтаванае, больш практычна прымяняльнае разьвіцьцё. У прыватнасьці, у творах Леніна мы чытаем: «Сьвядомыя рабочыя не прапаведуюць аддзяленьня; яны ведаюць выгады вялікіх дзяржаў і аб'яднаньня буйных мас рабочых. Але вялікія дзяржавы могуць быць дэмакратычнымі толькі пры самым поўным раўнапраўі нацыяў, а такое раўнапраўе азначае й права на аддзяленьне. (...)

«Гоман» зьяўляецца адным з важнейшых дакумантаў, дзе ўпершыню ў XIX ст. з такой шырынёй ставіліся грамадзкія праблемы, многія зь якіх ( у прыватнасьці, пытаньне пра дзяржаўнасьць Беларусі, стан мовы) зьявіліся надоўга жыцьцёвымі й патрэбнымі.

(працяг будзе)

---

Васіль Сініца

## МАЁ МЯСТЭЧКА

( УСПАМІНЫ )

працяг

Хоць бабулю Крыстыну яшчэ доўга дражнілі «п'яніцай», бо Аленка не прамінула расказаць усё суседкам, але з таго дня яе сытуацыя ў сям'і крыху папраўілася, бо й Базыль зразумеў, што ён таксама можа й павінен заступацца за жонку калі ёй дзеецца крыўда, абы толькі на гэта хапіла адвагі. А Крыстына паказала на прыкладзе, што адвагу можа мець ня толькі мужчына. У дадатку яны пачалі пасьля гэтага сур'ёзна думаць, каб зусім аддзяліцца ад Якуба й жыць асобна. Штопраўда,

да гэтага дайшло толькі праз некалькі год, калі ў бабулі было ўжо трое дзяцей.

Бабуля Крыстына мела ўсяго дзесяцёра дзяцей, але дарослага веку дажыло толькі чацьвёра, апошнія-ж паўміралі ў дзяцінстве. Яна была вельмі добрай гаспадыняй. Ніхто хіба з цэлага мястэчка ня ўмеў лепш заквасіць капусты ці гуркоў. Ніхто не зрабіў лепшага квасу з раўгені *), або зь недасьпелых жытніх каласоў. Ну, а бабулін хлеб дык ведалі ўсе. Відаць з гэтай прычыны яна нікому не пазычала хлебнай дзяжы, каб «не сапсавалі кісьлю». А калі ўжо якаясь з суседак вельмі-ж ужо прасіла аб гэтым, дык яна адказвала: «Ты мне лепш прынясі мукі, а я табе сьпяку хлеб, але дзяжы табе ня дам» — што яна й сапраўды часамі рабіла, пякла суседкам хлеб. Калі-ж дзесь у суседзтве быў банкет, дык бабулю абавязкава прасілі напячы печыва й нарабіць каўбас, якія ня толькі ўсім смакавалі сьвежыя, але маглі таксама перахоўвацца праз даўжэйшы час.

Падгадаваўшы крыху дзяцей бабуля пачала браць на харчаваньне «craлаўнікоў», пераважна дробных мястачковых урадаўцаў і паліцыю. Таму, што яна смачна гатавала, дык у яе ніколі не бракавала кліентаў і матэрыяльнае становішча сям'і пачало папраўляцца. Вось дзеля гэтага яны з маім дзедам Базылём змаглі даць такую-сякую асьвету двум сваім сыном. Яны амаль першыя ў мястэчку, належачы да сялянскага стану, змаглі паслаць у школу й маладзейшых ад гэтых сыноў — сваіх дачок. Сьпярша гэта выклікала пэўныя насьмешкі суседзяў, але праз некалькі год у школу хадзіла ўжо пару дзесяткаў дзяўчат.

Бабуля Крыстына не цярпела ніякіх плётак, і калі якаясь суседка прыйшоўшы да яе ў хату пачынала апавядаць штосьці «пасакрэту», яна знайходзіла прычыну, каб таксама «ў вельмі пільнай справе» выйсьці [redacted] хаты, або папросту заяўляла, што ня хоча слухаць плётак. Нягледзячы на гэта, яна з гумарам любіла апавядаць усялякія сьмешныя здарэньні не баючыся ў часе апавяданьня закрануць і прысутных. Яна ведала мноства песень і маючы даволі прыемны голас ахвотна іх сьпявала. Я думаю, што некаторыя зь іх, яна сама ўкладала, бо больш ад нікога [redacted] іх ня чуў.

Доўгімі зімовымі вечарамі, сама пры гэтым прадучы, апавядала нам, унукам цудоўныя казкі, але не аднэй зь іх не паўтарала па некалькі разоў, а калі [redacted] паўтарала часамі, дык уводзіла у іх зусім новыя вобразы, якія зусім зьмянялі зьмест. У яе казках дзейнымі асобамі выступалі дзяўчаты-сіроткі, сяляне-мужыкі, жыды, паны, ксяндзы, папы й часамі, але вельмі рэдка, нячысьцікі-чэрці. У эпілёгах гэтых казак, сяляне-мужыкі былі заўсёды паказаныя як найразумнейшыя і абдурваючыя іншыя пэрсанажы, а сіроты заўсёды былі ўзнагароджваныя за перажытыя імі крыўды. Але найбольш яна любіла апавядаць жарты-маналёгі, у якіх высьмейвала паноў ды сваіх братоў-сялян, якія хацелі выдаваць сябе за палякаў ці шляхту. Вось некалькі такіх яе жартаў засталося ў маёй памяці:

— * —

У хату такога ўяўленага шляхціца заходзіць сусед, прыглядаецца й нікога ня бачачы голасна кажа: — Дабрыдзень у хату! — Аказваецца, што на печы сядзяць дзеці, якія адказваюць:

— Ня ў хату, а ў афіцыну.

— Ой, я [redacted] ня бачыў вас рабяткі, — кажа дзядзька.

---

*) Раўгеня — жытняя мука запараная гарачай вадою ды пазьней пастаўленая нанач ў цёплую печ, зь якой выраблялі квас.

— Мы не рабяткі, мы панічы.
— Калі-ж вы панічы, дык чаго сядзіцё на пячы?
— Не на пячы, а на пжыпецку.
— А чаму- не на пячы?
— Бо ззаду штонікі падзёртыя, дык горача.
— Ці бацька ваш дома?
— Ня бацька, а ягомасьць.
— Дык, дзе-ж ваш ягомасьць?
— Пайшоў жыду-рандару *) кідаць воз гною за кавалак лою.
— А дзе ваша маці?
— Не маці, а імасьць.
— Дык, дзе-ж ваша імасьць?
— Пайшла жыдоўцы мыць хусты за качан капусты.

— * —

Дзяўчына й хлапец хочуць удаваць апалячаных шляхцюкоў:

— Хтось там пыле на бялэй кабыле, дык я пралку пад лаўку, тжэвікі на пентакі дый выходза з хаты.

— Дзень добры паненцы!

— Я не паненка, а мосьці панна. У нас паненкі толькі ў пакоях прыбіраюць, ды на кухні працуюць.

— Ці могу я ведзець гдзе мосьці панны татуленька?
— Не татуленька, а пан ойцец. Татуленькі толькі ў мужыкоў.
— Дык дзе-ж пан ойцец мосьці панны?
— Орае (гарэ)
— А ці моглэсь ■ відзець братуленьку мосьці панны?
— Не братуленьку, а пана брата, — і его нема, ён барнавае. (барануе)
— А сяструленька дзе, я пжэцеж до ней пжыехалэсь.
— Пан пыта ся моя панна сёстра? Яна дзесьці каля дому, пэўна за вуглэм с...

— * —

Аднаго разу маці-шляхцянка паслала дачку да свае сястры, каб тая пазычыла хлеба. Вярнуўшыся дадому дзяўчына застала ў хаце шляхцюка, які прыйшоў да яе ў залёты. Хочучы перад ім пахваліцца, што яна ўмее гаварыць «папольскему» яна кажа:

— Як шлэм ад цётунькі то цалы час под гура й нёслэм в тэрбе хляб такі велькі, як рэшэто, дык аж мне лындзі заболялы.

— * —

А вось маналёг селяніна пра яго спатканьне з панам ды іхную размову:

— Ішоў я лужком-беражком, знайшоў я табаку з ражком, аж ідзе мужык-чухнак ды просіць табакі зажыць. Я яму даў, ён зажыў ды ражок у кішэню ўлажыў і сам у кусты. Я-ж яго даганяю, на кіёк налягаю, каб ты за рог табакі дый прапаў замест сабакі! Аж з кустоў выходзіць пан ды такі важны, у капялюшы, з сабакам і стрэльбаю. Вось пан і пытае ў мяне:

*) Рандар — арандатар.

— Ах, ты мужык-дурань, куды ты так прэшся?

— А вось панок, ішоў я лужком-беражком, знайшоў я табаку з ражком, аж ідзе мужык ды просіць табакі зажыць, я яму даў, ён зажыў ды ражок у кішэню ўлажыў і сам у кусты. Я-ж яго даганяю, на кіёк налягаю, каб ты за рог табакі дый прапаў замест сабакі.

— Ну й дурны-ж ты мужык, як я бачу. Скажы ты мне чаму вы ўсе мужыкі такія дурныя?

— Гэта напэўна, паночку, затое, што як Бог розум дзяліў, дык мы на паншчыне былі, а пазьней калі прыйшлі, дык усёроўна паны так ціснуліся першыя, што аж пупы трашчалі. Вось нам-мужыкам трэба было браць толькі тое, што ад вас засталося.

— Ах, ты мужык-дурань, скажы ты мне хто ў вашай вёсцы за старшага?

— Напэўна, паночку, дзед Ахрэм, бо ён ўжо гадоў зь дзесяць як ад старасьці зьдзіцянеў.

— Боўдзіла ты дурное. Я пытаю каго вы слухаеце?

— О, паночку! Кожную вясну жаўрукоў і зязюлю ўдзень, а салавейку ўночы. Ну, а зімою напэўна-ж ваўкоў. Мы нават клікаем іх «зімовыя салаўі».

— Ну, і што мне рабіць з гэтым хамам? Скажы ты мне хто ў вас найбольшы?

— Ёсьць у нашага суседа Пракопа парабак Аўдзей, дык ён большы за ўсіх людзей.

— Каго-ж вы баецёся, дурыла ты нясусьветны!

— Ёсьць у нашага суседа Тодара сучка Шчабятушка, хоць і маленькая, але надта-ж ужо заядлая. Дык мы ўсе калі Тодараў панадворак мінаем, дык па кіёчку ў руках трымаем.

— Ах, ты мужык, ах ты дурань, каліж у вас Вельканоц?

— А ▪ чым яго ядуць гэты вельканоц?

— Вось дык ёлап. Вельканоц, ну як табе сказаць, гэта вялікая ноч.

— Вялікія ночы бываюць паночку зімой, асабліва калі газы незашта купіць і ў хаце сьцюдзёна, бо дроў няма.

— Дурань, я ў цябе пытаю, калі ў вас вялікі дзень (Вялікдзень)?

— Найбольшыя дні бываюць, паночку, перад Юр'ям, калі яшчэ трава ня вырасла, і жывёле нечага даць, а ў хаце таксама ані цыбуліны, ані ў што ўкрышыць.

— Скажы ты мне, боўтка ты дурны, ці ня можна тут у вас штосьці перакусіць?

— А чаму-ж не, паночку! Вунь за гэным барам, за Чырвоным Дваром, ляжыць вол пячоны, ▪ пад хвастом перац таўчоны. Туды ўсе паны зьязджаюцца, вала сабе ўразаюць і пад хвост у перац мачаюць. Ну, бывай пан здароў, бо мне няма часу, можа яшчэ таго мужыка даганю.

— * —

А вось апавяданьне, як каваль Юрка ашукаў гандляра Шлёму:

Аднаго разу каваль Юрка паехаў па вугольле патрэбнае яму ў кузьню ў адлеглую за вёрст дзесяць смалярню. Праехаўшы ўжо ладны кавалак дарогі, яму раптам захацелася закурыць. Набіўшы люльку й выняўшы зь кішэні крэсіва, ён з прыкрасьцяй заўважыў, што дзесьці вытрас губку. Гэта папсавала ягоны настрой, бо ён быў заядлы курэц, а да смалярні было яшчэ далекавата. Аднак праехаўшы яшчэ з паўвярсты ён пабачыў, што з бакавой дарогі ў ягоны бок ідзе знаёмы жыдок Шлёма, які гадляваў па вёсках рознай дробязьзю, як голкі, ніткі,

гузікі, сярнікі, табака й г. д. Усё гэта ён выменьваў на яйкі, масла, а часамі й курыцу. Узрадаваны гэтым спатканьнем Юрка прытрымаў каня й пачакаў пакуль Шлёма падыйдзе бліжэй, спадзяючыся дастаць у яго сярніка, каб распаліць сваю люльку. Неўзабаве Шлёма быў ужо каля яго, але калі Юрка папрасіў у яго сярніка, дык той адказаў:

— Вось і добра Юрачка, я табе дам зараз карабок сярнікоў, а ты мне дасі ўсяго тры яечкі калі я буду ў вашай вёсцы. Гэта-ж ня дарага, Юрачка, га?

— Дык па якога чорта мне поўны карабок? — узлаваўся Юрка, — мне-ж, каб толькі прыпаліць люльку.

— Уй, Юрачка, — загергатаў Шлёма, — ну, і што ты із пад сібе думаеш? Ці пазьней нейкі дурань купіць у мяне пачаты карабок сярнікоў, калі я прыпалю табе люльку? Уй, халерацка на твая галава! Ці ты ўбіваеш задарма хоць адзін ухналь?

Яно сабе й праўда, — крыху зьмякчэў Юрка, — ітабе-ж трэба жыць з тваімі жыдзянятамі. Але, ці ты ня ведаеш маей Праксэды? Што ты думаеш яна скажа, калі я дам табе ні з таго ні зь сяго аж тры яйцы?

— Ну, з разумным чалавекам добра й паспрачацца. Я табе скажу, Юрачка, ты падвязі мяне да Лучайкі, а я табе дам паўнюсенькі карабок сярнікоў. І будзе гасьцінец за гасьцінец, як казала мая Гэстарка.

— Ах ,каб ты апруцянеў са сваёй Гэстаркай і яе гасьцінцам, — дык да Лучайкі-ж будзе вярсты чатыры, ды ў дадатку мне не па дарозе.

— Во,во Юрачка, ты едзеш у другая старана, у смалярню, дык чаму ты там ня прыпаліш сваёй люлькі, ці там мала вагню?

— Сядай ужо чорт ты лазаты, — сказаў даведзены да адчаю Юрка, — ці ты ведаеш, які яшчэ кавалак дарогі да смалярні?

— Ведаю, ведаю Юрачка, вось таму і гавару, — зарагатаў Шлёма, і выняўшы са свайго мяха сярнікі ўсё яшчэ дражніўся зь Юркам, — толькі ты добра паганяй сваю кабылу, а то я й на шабас ня буду дома.

— Ах, ты нячыстая сіла! Давай ужо сярнікі, бо я магу якраз перад шабасам асіраціць тваю Гэстарку з жыдзянятамі.

Юрку аж расьпірала злосьць на Шлёму, аднак ён нічога больш не казаў і толькі заядла смактаў сваю люльку. У міжчасе яны ўехалі ў лес, які цягнуўся амаль да самай Лучайкі. І вось тут Юрку прыйшла ў галаву думка, каб адпомсьціцца Шлёму за яго ашуканства. Дык ён і пытае Шлёму:

— Ці ты чуў, што некалькі дзён таму ў гэтым лесе бандыты забілі шаркаўскага жыдка-гандляра?

Хоць Шлёма не адказаў нічога, але Юрка пабачыў, што ён перапужаўся не на жарты, бо аж зьмяніўся на твары.

— Ну, але гэта нічога, — прадаўжаў Юрка, — я цябе так схаваю, што ніякія бандыты цябе ня знойдуць. Кладзіся вось на сані, а я прыкрыю цябе гэтымі мяхамі з-пад вугальля. Толькі не адзывайся, памятай, нават і тады, калі-б табе трохі й балела.

Шлёма ўжо амаль ляскаючы зубамі ад страху паслухмяна лёг на салому, што была на санях, а Юрка ўхутаў яго чорнымі ад сажы мяхамі. Пачакаўшы некалькі хвілін ён зьмененым голасам закрычэў памаскоўску:

— Стой! Дзеньгі імееш?! — а апошнія словы яшчэ замацаваў трохпавярховым прывітаньнем, якім маскалі звыклі вітацца са знаёмымі й незнаёмымі.

— Якія там дзеньгі, паночкі, — ужо не зьмяняючы голасу прадаўжаў ён далей, — вось вазіў на продаж у Лужкі пустыя бутэлькі, але не прадаў, вельмі-ж танна ўжо плоцяць. — Пачакаўшы крышку ізноў зьменным голасам зароў:

— Продлятый мужык! Ану рэбята, разьбіць ему эці бутылкі! — і ўхапіўшы пугаўё за тонкі канец пачаў лупцаваць па мяшках, што аж сажа курылася.

Шлёма-ж за кожным ударам тоненькім галаском паўтараў: дзы-ы-ынь, дзы-ы-нь, а калі той лупіў хутчэй, дык ёе паўтараў дзыньдзынь, дзынь!

Спагнаўшы такім чынам злосьць на Шлёму, Юрка ўканцы сьцягнуў зь яго мяхі і ўдаючы перапуджанасьць сказаў:

— Ну, вылязай, бандыты ўжо пайшлі. Хоць і чорны ад сажы як нячысьцік, але шчасьлівы з добрага заканчэньня справы, Шлёма доўга яшчэ дзякаваў Юрку й на разьвітаньне даў яму яшчэ задарма пачак табакі «шарашэўкі».



Адзін даволі заможны, але страшэнна скупы шляхціц меў прыгожую дачку Марысю. Дзеля таго, што больш дзяцей у яго ня было, Марыся лічылася завіднай партыяй, бо пасьля сьмерці бацькоў уся гаспадарка й зямля пераходзіла на яе. Але, вось бяда, што ўсе кандыдаты на зяцёў паводля апініі старога бацькі былі не дастаткова ашчаднымі, а папросту кажучы нават не такімі скупымі, як ён сам, бо ён хацеў зяця яшчэ скупейшага за сябе. Ведама, што сярод акалічных шляхцюкоў былі таксама не абы якія скнэры, але ці вы знойдзеце дурня, які паказаў-бы сваю скупасьць перад дзяўчынай, ці яе бацькамі. Што-ж датыча сялянскіх сыноў, дык стары й слухаць не хацеў аб «хлопах». Дык вось ня гледзячы на тое, што Марыся была прыгажуняй, аднак сядзела ў дзеўках, хоць ёй было ўжо не далёка да трыццаткі.

У недалёкай, ад шляхціцавага засьценку, вёсцы жыў прыстойны й ня дурны дзяцюк Міхась. Ён таксама, як Марыся, быў у бацькоў адзіным сынам, а яго бацькі, а дакладней маці, бо ў тым часе ягоны бацька быў ужо памёршы, лічылася найзамажнейшай гаспадыняй у вёсцы. Міхасю таксама даўно ўжо трэба было жаніцца, але ён усё яшчэ выбіраў ня могучы знайсьці сабе дзяўчыны да густу. Праўду кажучы, ён даўно меў вока на Марысю, але ня будучы шляхціцам, хоць у сапраўднасьці каталіком быў, ня меў адвагі пасватацца да яе. Аднак неяк на аднэй зь вечарынаў ён нібы жартуючы спытаў у яе, ці пашла-б яна за яго замуж.

— А чаму-ж не, — адказала чырванеючы як півоня дзяўчына, — але-ж мой татка ніколі ня згодзіцца на гэта, бо па першае ты ня шляхціц, а па другое ён хоча мець зяця, які-б быў скупейшы за яго самога.

Гэта яшчэ не бяда, — адказаў хлапец, — галоўнае каб ты была згодная, а з таткам мы неяк дагаворымся. У наступную сыботу ня ідзі на вячоркі, будзь дома, бо я прыеду да цябе ў сваты.

Ужо ў наступны панядзелак ці аўторак, Міхась выпрасіўшы ў маці збан мёду й ладны ком масла, пайшоў да ксяндза. Якая размова адбылася паміж імі нікому бліжэй ня ведама, аднак Міхась вяртаючыся дадому трымаў за пазухай дакумант, зь якога было відаць, што ўсе ягоныя продкі па бацьку, а таксама й па маці былі «шляхэтне ўродзонымі». Не далей як у сыботу вечарам нехта пастукаў у шляхціцава ваконца. Калі той вышаў на панадворак дык пабачыў прыгожага жарабца, але запрэжанага ў простыя развалкі. У развалках улезшы ў салому сядзеў малады хлапец апрануты ў стары кажушок і дзіравую шапку. На пытаньне чаго ён хоча,

той адказаў:

— Я чуў, што васпан маеш дачку на выданьні, дык вось я й прыехаў у сваты.

— А дзе-ж васпанаў сват? Хто-ж гэта езьдзіць у адзіночку па сватох?

— А пашто мне той сват? Хіба толькі каб гарэлкай надарма паіць? Ён-жа мне ня зьверне грошай калі васпан не аддасі за мяне сваю дачку.

Узрадаваны шляхціц хацеў адразу запрасіць яго ў хату, але дзеля фасону дапытваў далей:

— Дык кажаш вашэця, што прыехаў у сваты да маёй дачкі, дык чаму-ж у развалках ды ў старым кажуху? Ці ня лічыш гэта абразай для майго дому?

— Што вашэця кажаш, — запярэчыў Міхась, — вось калі дагаворымся, дык на вясельле запрагу й новыя санкі й кажух апрану новы. А сёньня, дзеля чаго-ж яго драць, або растрасаць па выбаінах санкі? На ўсё павінна быць пара!

Задаволены такім адказам, стары хуценька адчыніў вароты і ўпусьціў гасьця на панадворак. Спарадкаваўшы пад паветкай жарабца, яны ўвайшлі ў хату. Тут Міхась, каб ня было ніякіх сумліваў, сунуў будучаму цясьцю пад нос дакумант аб сваёй шлахоцкасьці, а той дастаўшы з-пад абраза пазьвязваныя ніткамі акуляры, пачаў сылябізаваць яго пры сьвятле малюсенькай лямпкі-смаркачкі. Гэта трывала добрую чвэрць гадзіны, бо шляхціц бойка чытаў толькі ўласную кантычку, а вось суседзкую, дык ужо не ахці. Аднак уканцы ён хоць з зь цяжкасьцямі, але зразумеў, што перад ім стаіць той, якога продкі як з аднэй, так і з другой стараны былі шляхэтныя. Цяпер ён ўжо з пашанай папрасіў Міхася сесьці, бо да таго ён стаяў каля парогу. Сядаючы ён выцягнуў зь кішэні сотку *) гарэлкі, ды й тую ўжо пачатую.

— Чаму-ж так няшмат гарэлкі? — спытаў шляхціц.

— А гэта-ж во я, бачыце, быў два тыдні таму ў сватах пад Залесьсем, але там нічога ня вышла, дык я забраў гарэлку ды паехаў дадому.

Пасьля гэтых слоў шляхціцу, як той казаў «як-бы хтосьці маслам па душы памазаў», але ён яшчэ не паказваў свайго задаваленьня навонкі. Пацягнуўшы па глытку гарэлкі й закусіўшы цыбулінай, якую стары ў міжчасе прынёс і палажыў на стале побач сухога акрайца хлеба, яны пачалі размову пра гаспадарку, якую Марыся атрымае пасьля сьмерці старых. Шляхціц усё яшчэ стараўся не паказваць свайго задаваленьня, якое аж падкідала яго на лаўцы. Перагаварыўшы ўсё галаўнейшае, Міхась і кажа:

— Вось, каб прыйшла маладуха, глянуў-бы як яна выглядае, дык пасьля можна-б было й лямпу загасіць.

— Як гэта лямпу загасіць?! — абурыўся шляхціц, — за каго вашэця маю дачку маеце? І адным словам вон з маей хаты ды ўсё!

— Проша васпана супакоіцца, — спакойна адказаў Міхась, — я вельмі паважаю вашэцяву дачку, але я толькі хацеў паглядзець на яе ды няхай-бы ішла ў сваю камору, а мы маглі-б гаварыць далей і ўпоцемкі, пагатове мы ўжо бачылі адзін аднаго, дык нашто задарма газу пераводзіць?

Узрадаваны такім адказам, шляхціц сьпярша кінуўся цалаваць Міхася называючы яго наймілейшым зяцем, а пасьля хуценька паклікаў Марысю. Тая ўвайшоўшы ў хату ўдавала, што яна бачыць Міхася першы раз у жыцьці й зачырванеўшыся

---

*) Сотка — восьмая частка кварты, інакш найменшая мера гарэлкі якую можна было купіць у пляшцы.

скромненька стаяла ў куточку, а бацька сказаў:

Ну, дзеткі, няхай вам Бог дае шчасьця, а цяпер дачушка ты ідзі ізноў да маці, бо нам з панам Міхалам трэба яшчэ аб чым колечы паталкаваць.

Пачалі з таго, што выпілі рэшту гарэлкі й закусілі тэй-жа недаедзенай цыбулінай. Пасьля гэтага стары згасіў смаркачку і яны засталіся ўпоцемках. Па нейкім часе хлапец і кажа:

— Ну, вось пане цесьцю бачыце, што можна зусім добра й бяз сьвятла весьці размову, але пашто мы седзячы толькі дзяром попусту порткі. Давай зьдзенем іх і будзем сядзець у ісподніках, бо ўсёроўна нас ніхто не пабачыць.

У адказ на гэта, шляхціц борзда запаліў ізноў лямпу й паклікаўшы жонку з дачкою заявіў, што заўтра неадкладна яны паедуць усе разам да ксяндза, каб даць на запаведзі, і з панядзелку ўжо будуць шыкавацца да вясельля.

Праз некалькі тыдняў адбылося й вясельле. Ня трэба хіба казаць, што сапраўдны характар зяця, шляхціц пазнаў тады, калі той як прымак прыйшоў да яго ў хату жыць.

— * —

Толькі сёньня праз некалькі дзесяткаў год пасьля яе сьмерці, успамінаючы бабулю, я ў поўнасьці ўсьведамляю сабе, якой скарбніцай народнага фальклёру яна была. Але нажаль за яе жыцьця не знайшлося нікога, хто-б змог запісаць яе цудоўныя казкі й байкі, а перадусім нязьлічоныя й нідзе ўжо цяпер ня чутныя песьні. Шкода, што ўсе гэтыя памяткі народнай творчасьці яна забрала з сабой на той сьвет.

Памерла бабка Крыстына бяз лішніх мукаў, як кажуць «ходзячы». Напэўна такая сьмерць ёй была прызначана як узнагарода за яе цяжкое, сіроцкае дзяцінства й маладосьць, а пазьней і пачаткі замужжа.

Сваю сьмерць яна прадчувала, і ўжо за некалькі месяцаў перад ёй усё цьвердзіла, што яна ўжо хутка пойдзе да свайго Базылька. У той дзень нараніцы калі ўсе старэйшыя паехалі ў поле капаць бульбу, а я не памятаю зь якой прычыны не пайшоў у школу й седзячы каля стала працаваў над заданьнямі, яна трымала на руках колькімесячнага ўнука майго дзядзькі. У пэўным мамэнце яна зьмянілася на твары й знакамі паказала мне, каб я ўзяў ад яе дзіцё, а сама яшчэ змагла падыйсьці да ложка й легчы. Пакуль я праз суседзяў наказаў старэйшым, прайшло больш за паўгадзіны. Выклікалі доктара й сьвятара й праз якой яшчэ паўгадзіны бабулі ня стала.

Апрача бабкі Крыстыны на нашай вуліцы жыло яшчэ некалькі нязвычайных людзей, але найбольш хіба вызначным зь іх быў Ігнат Крыўка, па клічцы «Буры».

Ігнат заўсёды быў паважным, хоць і ў яго часамі мільгалі іскаркі войстрага й непаўторнага гумару.

Быў ён свайго роду мястачковым адвакатам, хоць ня можна цьвердзіць напэўна, што ён меў закончаную нават сярэднюю асьвету. Гаворачы аб асьвеце я маю на думцы гэтую афіцыяльную, бо неафіцыяльна ён напэўна быў больш асьвечаным за тых польскіх міжваенных урадаўцаў, прысыланых соткамі ці тысячамі «на крэсы», якія толькі ўмелі падурному адыгрываць «вялікіх паноў».

Справа ў тым, што Крыўка вучыўся ўсё сваё жыцьцё. Кожную вольную ад сялянскай працы хвіліну, ён праводзіў на чытаньні. А чытаў ён усё, што пападалася яму ў рукі, пачынаючы ад старых расейскіх і польскіх календароў, газэт і часопісаў,

і канчаючы камуністычнымі ўлёткамі й «Жыцьцямі Сьвятых». Сваім простым сялянскім розумам ён добра разьбіраўся дзе праўда, а дзе мана.

Зь дзядзькам Ігнатам можна было пагаварыць на кожную тэму, і той хто яго ня ведаў бліжэй, меў заўсёды ўражаньне, што мае перад сабой высокаадукаванага чалавека. Памяць ён меў фэнамэнальную й тое, што прачытаў нават некалькі год таму, мог кожнай хвіліны амаль даслоўна зацытаваць. Апрача гэтага ён меў надзвычайныя здольнасьці да моваў. Ніколі ня ведаючы польскай літаратурнай мовы, ён даслоўна за пару год і без нічыёй дапамогі дасканала апанаваў яе. Пазьней сяляне нашай, а нават і суседніх гмінаў, карысталі зь ягонай дапамогі ў пісаньні розных прозьбаў ды паданьняў да ўладаў. Таксама, калі хтосьці патрабаваў праўнай парады, дык зьвяртаўся да «Бурага», а той пайшоўшы ў гміну знаходзіў у «Дзеньніку Устаў» патрэбны параграф і даваў трапную параду.

За свае паслугі Крыўка браў мінімальную аплату, ды найчасьцей у «натуры», разьлічваючыся ў ведамай ужо Нінкі, што ведама ня выклікала асаблівага захапленьня ў ягонай жонкі, бясконца добрай Марылькі.

Крыўка памагаў іншым, але сам меў нясупынныя клопаты з адміністрацыяй і паліцыяй. І толькі хіба дзякуючы таму, што сам нядрэнна разьбіраўся ў правох, зрэштай амаль ніколі не перасьцераганых палякамі, ніколі ня быў караны арыштам, а ў большасьці грашовымі карамі. Справа ў тым, што ён быў падпішчыкам усяе даслоўна беларускай прэсы, якая выходзіла ў Польшчы й часткова па-за яе межамі. Вось за гэта на яго сыпаліся пратаколы, як тыя прымаўкавыя шышкі на такога-ж прымаўкавага ягонага імяньніка Ігната. Ведама-ж у гэтых пратаколах ніколі не казалася, што прычынай іх ёсьць беларускасьць «Бурага». Папросту ягоны комін быў не настолькі белым, як гэтага хацелася Славою-Складкоўскаму *), або на гародзе не красавалася пэўная зьбітая з дошак «установа агульнага ўжытку», то дошкі на ходніку былі няшчыльна дапасаваныя, або карове здаралася затрымацца там, дзе ня трэба. А за ўсё гэта адказваў бедны Ігнат.

Часамі баронячыся ад чарговых нападаў, ён высьмейваў улады, што ў рэзультаце прыносіла новыя пратаколы. Мне прыпамінаецца, як ягоная карова некалькі дзён хадзіла з картонавай шыльдай на рагах, на якой выразнымі літарамі было напісана: «Сяброўкі! Калі вашыя гаспадары чытаюць «Беларускую Крыніцу, не нагнойвайце дзе папала, бо за гэта будуць адказваць вашыя гаспадары, хоць яны ў гэтым і нявінаватыя».

Будучы сам веруючым каталікам, ён аднак ніколі ані адным словам не заікнуўся пра вышшасьць каталіцкае веры, а ў дадатку не прамінаў ні аднае нагоды, каб не старацца растлумачыць сваім адзінаверцам, што іх вера ня ёсьць «польскай», а вера іх братоў па крыві ёсьць праваслаўнай а не «рускай», як гэтага хацелася ксяндзом і адміністрацыі.

Ад яго я атрымаў (ды ці толькі адзін я?) сваё першае ўсьведамленьне аб маёй нацыянальнай апрычонасьці ад расейцаў і палякаў і маёй прыналежнасьці да беларускага народу. І я думаю, што ня толькі ў мяне, але і ў іншых гэтая сьведамасьць засталася на ўсё жыцьцё.

Адзіным недахопам дзядзькі «Бурага» было тое, што ён часамі любіў кульнуць лішнюю чарку. Але выпіўшы ён ніколі не гаварыў непатрэбшчыны й наагул ста-

---

*) Славой-Складкоўскі — прэм'ер міністар польскага ўраду, ведамы са сваіх бязглуздых, прасьцяцкіх і прымітыўных распараджаньняў.

раўся, каб па ім ня можна было нічога пазнаць. Сёньня прааналізаваўшы ягонае жыцьцё я даходжу да выснаву, што гэты ягоны недахоп, можна таксама тлумачыць як падсьведамы пратэст супраць несправядлівасьцяў, якія пераживаў наш народ.

Усю прэсу, што выпісваў, ён ахвотна даваў пачытаць іншым, але толькі вельмі злаваўся, калі яму вярталі часапіс ці газэту паплямленым, ці з пазагінанымі берагамі. Часамі, асабліва зімовымі даўгімі вечарамі, да яго ў хату зьбіраліся мужчыны ды маладзейшыя хлапцы каб паслухаць, калі ён чытаў наголас часапіс ці газэту, але з умовай, што яго ня будуць перабіваць ды зашмат курыць. Ягонае чытаньне было таксама асаблівае, бо ён пачаўшы ад загалоўку газэты чытаў усё чыста, ня выбіраючы цікавейшых артыкулаў. Напрыклад ён пачынаў: «Беларуская Крыніца» — орган беларускіх хрысьціянскіх дэмакратаў, — і закончваў тым месцам дзе было, — наклад .... экз. Друк... Вільня, Завальная...»

У часе моднага ў тыя часы захапленьня Саветамі, бо нібы там будаваўся «Беларускі Дом», дзядзька Ігнат гэтага захапленьня не падзяляў. Ён толькі ўсьміхаючыся з-пад сівых вусоў часамі казаў: І чаго ты скачаш? Пачакай, загадзя не скачы, бо пажывём — пабачым, што яно і як. Так, дарагі дзядзька Ігнат. Праўда была на тваім боку, толькі цікава, скуль ты гэта ведаў? Мы ўсе пабачылі ў 1939 годзе чаму ты ня меў прычынаў да перадчаснага захапленьня. Але Усемагутны захаваў цябе ад зьдзекаў чарговага захопніка. Ігнат Крыўка памёр на другі дзень пасьля «асвабаждзенія» ў 1939 годзе.

Як супрацьлежнасьць да Крыўкі, быў іншы наш сусед Аляксандар, ці як у нас казалі Алёкса Вяршылоўскі, па клічцы «господаж», бацька Віцькі, якога Баліцкі быў выгнаў са школы. Трэба зацеміць, што між іншым Віцька быў «вырадкам» у сям'і Вяршылоўскіх, збаламучанай ксяндзом і маткай-тэрціяркай. Уся сям'я лічыла Віцькавы праявы беларускай сьведамасьці ледзь што не камунізмам.

Дык вось Алёкса, яго жонка-тэрціярка Анэта ды тры меншыя Віцькавы сястры лічылі сябе палякамі. Доказам гэтага Алёкса ўжо ад самага прыходу да нас палякаў заяўляў усім, што «цяпер прыйшла наша вера й наша права». З тэй прыблізна пары й пайшла ягоная клічка — «господаж», бо ён кожнаму польскаму жаўнеру рэкамэндаваўся: «естэм гсподаж тэго дому». На гэтым, здаецца, і канчаліся ягоныя веды польскай мовы.

Штопраўда пад канец польска-савецкай вайны «господажу» прыйшлося перажыць даволі балючы доказ гэтага польскага «права», але й гэта ня здолела зьмяніць ягоных патрыятычных пераканаяньняў. А адбылося вось якое здарэньне: Польскі 7-мы полк пяхоты, аб якім я ўжо ўспамінаў пры апісаньні рынку, спрычыніўся да «господажовай» бяды. Жаўнеры гэтага палка забралі ў яго падцёлка й зарэзаўшы тут-жа на рынку зварылі зупу. Падобна ў часе гэтай кантрыбуцыі «гоподаж» штоўхануў аднаго з жаўнераў ды яшчэ гразіўся пажаліцца самому Пілсудзкаму. Ведама, што гэты штуршок яму зьвярнулі з высокім апрацэнтаваньнем, і каб не заступніцтва ксяндза, маглі-б і застрэліць. На ягонае шчасьце й дзякуючы гэтаму заступніцтву, яго толькі забралі ў жандармэрыю й даўшы «двадзесьця пеньць» адпусьцілі дадому. Пасьля гэтага ён штосьці з паўгоду хадзіў неяк скасабочыўшыся. Аднак гэтыя «двадзесьця пеньць» яму менш балелі чым успамін пра месца, дзе ён іх атрымаў — у «Шылаватцы».

Тут я павінен зрабіць кароткі водступ, каб вытлумачыць чытачом, што такое «Шылаватка» й чаму яе «господаж» так ненавідзеў. На вуглу рынку й Маставой вуліцы стаяў даволі вялікі дом уласнасьці жыдоўскай сям'і Шэнкманаў. Дзеля яго

дзіўнай (высокай і вузкай) пабудовы яго празвалі Шылаваткай. У ім за царскіх часоў знаходзілася гарэлачная крама, — «манаполька» Памятаю, што яшчэ за маіх дзіцячых часоў на яе сьцяне віднеўся выцьвілы напіс: «распівочно і на вынос». Таму, што «господажу», як мужу аднэй з найгалаўнейшых тэрцыярак не выпадала піць гарэлкі (некаторыя казалі, што толькі купленай за свае грошы), дык і манаполька а зй ёю разам і Шылаватка не карысталіся ягонай сымпатыяй. Аднак зь яшчэ большай агідай ён адносіўся да праваслаўнай царквы, якая стаяла па другім баку Конскага рынку, якраз насупраць Шылаваткі. І вось, «господаж» часта казаў, што мінаючы гэтае месца ён ўсё-ж лепш глядзіць у бок Шылаваткі чым царквы. Пасьля-ж «экзэкуцыі» ягоны пагляд радыкальна зьмяніўся і ён хоць і бяз сымпатыі, але-ж глядзеў ужо лепш у бок царквы.

Некалькі год пазьней «господаж» памаленьку забыўся пра сваю духовую трагэдыю й нават да тэй ступені, што ўжо на ганку гэтай-жа Шылаваткі разыгралася так сказаць трагікамэдыя, дзеючымі асобамі якой былі «господаж» і я.

У Лужках з даўных часоў быў уведзены звычай начной супрацьпажарнай варты. Абавязак вартаваньня мелі ўсе ўласьнікі дамоў, за выняткам пажарнікаў, урадаўцаў, настаўнікаў і дактароў. Звычайна на варту ішлі ўдваіх найбліжэйшыя суседзі. Да іх абавязкаў належала вечарам запісацца ў паліцыі, а пазьней вартаваць аж да ўсходу сонца. Вартаўнікі мелі з сабою адумысловую трашчотку, якая калі яе пакруціць за ручку выдавала гукі падобныя да выстралаў з аўтамату. Ужываць трашчотку вартаўнікі мелі права толькі ў выпадку пажару ці якое іншае бяды, ды таксама калі паліцыя спраўджала ці яны ня сьпяць сьвішчучы ў паліцыйны сьвісток. На гэты сьвісток яны мелі абавязак адказаць гукамі трашчоткі.

Майму дзядзьку, у якога мы жылі пасьля сьмерці дзеда, заўсёды выпадала вартаваць з «господажам», бо беспасрэдныя суседзі, таксама Вяршылоўскія й браты апошняга, былі пажарнікамі. Дык вось аднаго разу здарылася, што дзядзька быў хворы й мая маці ўпрасіла «госодажа», каб ён згадзіўся вартаваць са мной, у той час 13-14-ці гадовым хлапцом. Ён згадзіўся вельмі неахвотна, а пасьля доўга бурчэў, што нібы п яму вельмі малая дапамога, бо мне яшчэ самому трэба няньку. Гэта вельмі ўжо раніла маю 14-ці гадовую амбіцыю. Аднак у далейшым усё было добра да нейкай гадзіны 1-ай па поўначы, калі «господаж» заявіў, што ён даволі напрацаваўся за дзень і цяпер павінен адпачыць, а я мушу вартаваць адзін, але барані Божа не заснуць, каб своечасова адказаць на паліцыйны сьвісток. На мае рашучыя пратэсты ён адказаў, што я магу ісьці дадому, але тады ён пойдзе ў паліцыю й заявіць, што я ўцёк з варты. Ведама, што выслухаўшы падобную пагрозу я ўжо без далейшых нараканьняў быў змушаны пагадзіцца. Пасьля гэтага «господаж» узабраўся на высокі ганак Шылаваткі, наставіў высокі каўнер кажуха, выцягнуўся на ганку падлажыўшы пад галаву зьмецены дзяркач, які тут-жа валяўся, ды даў такога храпуна, што ■ баяўся каб не пачула паліцыя, якая мясьцілася на супрацьлеглым баку рынку.

Прызнаюся, што мне аднаму было крыху маркотна й боязна, каб якія «шышы», як у нас называлі бандытаў, не напалі на мяне ды не падпалілі мястэчка. Але найбольш я баяўся, каб не задрамаць і не праслухаць паліцыйны сьвісток. Праўда, праз якуюсь гадзіну зь лішкам ён абазваўся і я хуценька адказаў трашчоткай. Нават гук трашчоткі ня здолеў разбудзіць «господажа». Неўзабаве пачало пакрысе віднець, але ён спаў далей. Пасядзеўшы яшчэ крыху пры ім, я вырашыў пабудзіць яго, але мае намаганьні ня прынесьлі вынікаў, бо ён толькі захінуўшы шчыльней



Доўгачаканая сустрэча з калегам,
кампазытарам Карповічам.



Валачобнікі ў Лювэне (Вялікдзень 1951)



Праходка із студэнтамі.



## Каліна маліна

Народная песьня

Апр. М. Равенскі

1.Ка лі на ма лі- на, над я рам ста я- ла

над я рам ста я - - ла, ад сонца за- вя ла

2. Над ярам стаяла,
Ад сонца завяла.
Маці сваю доню
За год не спазнала.

3. Маці сваю доню
За год не спазнала:
«Доню мая, доню,
Якая ты стала».

4. Каліна, маліна
Над ярам стаяла,
Над ярам стаяла,
Ад сонца завяла.

## Ой, адлятае ясны сокал

Народная песьня

Апр. М. Равенскі

1.Ой ад ля та - - е - яс ны со - кал

вы са чэй ма - іх са - доў.

2. Ой, ад'яжджае мой міленькі,
У чужу, дальню старану.

3. Ой, я з сьлязамі яго прасіла,
Хоць нямнога пачакаць.

4. Ой, ён паехаў, мяне кінуў,
А ці вернецца назад?

палу кажуха хроп далей, як той дзіравы кавальскі мех у ягонай кузьні («господаж» пакрыху займаўся кавальствам). Тады мне прыйшла ў галаву зласьлівая думка, каб пакінуць яго на ганку, а самому пайсьці дадому. Праз пару хвілінаў я задумваўся, што можа й ня варта насьміхацца над старэйшым чалавекам, але прыпомніўшы, што ён пагражаў мне заявіць у паліцыю, што [redacted] нібы ўцёк з варты, пакуса перамагла і я накіраваўся дадому.

Быў нядзельны пагодны ранак раньняй восені. Ужо каля гадзіны 8-ай пачаўся большы рух на вуліцы, але ніхто не зьвяртаў асаблівай увагі на чалавека, якому ўздумалася адпачыць на шылаваткаўскім ганку. Анэта таксама не клапацілася, дзе падзеўся яе Алёкса, думаючы, што ён напэўна пасьля непраспанай начы заваліўся спаць на сене ў пуні.

Я таксама спакойна спаў сабе на сене. Каля гадзіны 10-ай прасунуўся й толькі думаў ісьці ў хату каб паласавацца нядзельнымі блінамі, як на панадворку пачуліся ўзбуджаныя галасы маёй маці ды нейчы яшчэ. Нарэшце маці пачала клікаць мяне. Выйшаўшы на панадворак я пабачыў Анэту, якая нешта крычэла сярдзітым голасам. Праз пэўны час я ня мог нічога зразумець, чаго яны хочуць ад мяне. Калі-ж нарэшце [redacted] зразумеў, што Анэта ня можа нідзе знайсьці свайго Алёксы, я выявіў прыпушчэньне, што ён яшчэ пэўна сьпіць на ганку. Пасьля гэтага Анэта абазваўшы мяне й ні ў чым непавінную маю маці даволі благімі польскімі слоўцамі, віхром панеслася на рынак. Праз пару хвілінаў яна паказалася ў канцы вуліцы гонячы перад сабою беднага «госодажа» абсыпаючы пры гэтым яго адборнай лаянкай і прычытаньнямі, зь якіх вынікала, што ён навек зьняславіў сям'ю Вяршылоўскіх. Яшчэ ім было мала гэтага «камуністага» Віцькі, а ўжо цяпер ім ня можна будзе паказацца ў касьцёл, бо людзі скажуць, што ён п'яны качаўся па ганку.

Сам «господаж» маўчаў, ды толькі злосна памахаў кулаком у наш бок. Толькі праз некалькі дзён ён зьявіўся на нашым панадворку [redacted] не зайшоўшы нават у хату, заявіў, што гэта ўсё «кацапскія штучкі», каб ачарніць яго шчырага паляка [redacted] каталіка. Ня выслухаўшы ані слова з апраўданьняў маёй маці, ён плюнуўшы накіраваўся ў напрамку солтысавай хаты, дзе дамогся, каб у будучыні яго не вызначалі на варту з гэтымі «недаверкамі». Прызнаюся, што з гэтай зьмены я быў вельмі задаволены, бо цяпер мы вартавалі зь Ігнатам Крыўкам-Бурым, які — па першае: нігога ня меў супраць майго таварыства, — а па другое: доўгімі начамі апавядаў мне шмат цікавага пра нашую слаўную мінуўшчыну.

Алёкса-ж-«господаж» ніколі не забыўся прычыненай яму зьнявагі і адудзячваўся за маю правіну ня толькі мне, але ўсім суседзям «кацапам» хоць тым, што заўсёды знаходзіў сабе нейкую працу на праваслаўныя сьвяткі, чаго не рабіў ніхто з каталікаў у ва ўсім мястэчку. Трэба сказаць, што ў Лужках існаваў ад няпамятных часоў звычай, што як каталікі, так і праваслаўныя стараліся ўшанаваць сьвяты іншых. Прынамсі ня вывозілі ў гэты дзень гною, або калі і ехалі працаваць у поле, дык рабілі гэта ўнепазнакі, стараючыся выехаць зь мястэчка па загуменьню, ці як у нас казалі «на цянькі». Але «гоподаж» рабіў гэта дэманстрацыйна, а калі ня меў ніякай працы, дык ішоў у кузьню, клаў на кавадла кавалак бляхі ды лупіў у яе молатам. Дарэчы сказаўшы, каваль зь яго быў някудышні.

(далей будзе.)

Міхась МАШАРА

# СЬМЕРЦЬ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

## 1

Паўстаньне згашана, зламана,
Надзея згублена ізноў.
Па краю ўсім крывавяць раны,
Пад дзікі рогат казакоў.
Гуляюць царскія найміты,
Гуляюць каты і прымус!
Літва і Польшч крывёй заліта,
Ляжыць стаптанай Беларусь.
У замець сьнежную, уночы,
І там, і тут сьмяротны крык —
Няшчотнай жорсткасьцю ласкочыць
Ізноў маскоўскі штык.
І там, і тут — пажары сьвецяць
На доўгі-доўгі сьнежны шлях.
Ідуць па ім паўстаньня дзеці,
Апошні раз — у ланцугох.
Казак і кат...
Пятля і куля,
На згашшых вогнішчах — крывёй
Спраўляюць п'янае разгульле,
Над «усьмірэннай» стараной.
І трупаў, трупаў — Божа слаўны!
Хто не расстрэлян — той — вісіць,
Хто не павешан — той сасланы,
Або за кратамі сядзіць.

## 2

Паўстаньне згашана, зламана,
Крывавы цешся Мураўёў:
Літва і Беларусь зламаны
Ляжаць памочаны ў кроў.
Усюды кат і мат маскоўскі
Здавілі грудзі ўсім жывым
І нат сам слаўны Каліноўскі
Ужо ня страшны болей ім.
І імя грознае «дыктатар»,
Ня страшна болей маскалём.
Хаця ня з бою, — а праз здраду,
За кратай звоніць ланцугом.
Пануры мур — вастрог... і краты
У лёху цёмным і сырым:
Сядзіць зьняможаны зусім.
О, лёхі!
Як страшна чуць сябе між вамі,
І знаць, — што згінеш тут адзін.
Тады, як сонца над палямі,
Прастору шыр і неба сінь!
Чаргой праходзяць успаміны
У сумных думах змагара: —

— Нястрашна гінуць...
— Трэба — зьгіну!
— Але, каб зьгінуць не дарма!
— О, мой народ!
— О, край мой сонны,
— Цябе я — слабы ня збудзіў!
— Ты сьпіш, як спаў душой пакорны
— І сонны блудзіш, як блудзіў.
— І нат ня чуеш мукі сына,
— Якога выдаў сам на крыж.
— За грэх які? — Якія віны?
— За што бязьвінны ты цярпіш?
— Дакуль-жа будзеш спаць, народзе,
— Дакуль у блудзе і цямры,
— Чужынец у дзікім карагодзе,
— Таптацца будзе па табе?
— Душу затравіла няволя,
— У паняверцы зьніч твой згас,
— Цярпеньня гора і нядоля,
— У хаце сталі на папас.

3

Маўчаць муры... маўчаць нямыя, —
Нічым ня ўзрушаны вастрог.
Нядолі сьветкі векавыя, —
Што ім увесь боль людзкіх зьнямог?!
Адзін змагар па лёху ходзіць,
Зь ім дум яго гульлівы рой,
Як-бы праверыць шлях свой хоча,
Ці суд трымае над сабой.
— Кастусь, Кастусь, ты зьгінеш, братка,
— Ты лішні стаў у людзкой сям'і.
— Каму свой сьцяг пакінеш спадкам
— І думы вольныя свае? —
— І тыя дробныя зярняты,
— Што ў ноч кідаў з размаху ты,
— Ці ўзойдуць там, ля шэрай хаты,
— У краіне сну і цемнаты?
— Замоўкне кліч «Мужыцкай праўды»,
— Загасьне душ бунтуючых аўтар,
— Бо вы загінеце абодва,
— І ты — і Яська-Гаспадар.
— Усіх другіх малую жменю,
— Як лісьце вецер разьнясе.
— Мо толькі ў новым пакаленьні,
— Пра вас хтось песьню прапяе.
— Прыму ўсё!...
— Зьнясу пакорна і лагодна,
— І нават моладасьць маю
— Аддам, як дар, краіне роднай,
— І сэрца жар,
— І ўсю бунтарную душу!
— Аднога толькі ня выбачу,
— Адно с сабой я панясу, —
— Табе народ — нярупнасьць нашу,
— І веру чыстую маю!

## 4

Заласкатаў засоў іржавы,
Вартаўнік дзьверы адчыніў:
— Там клічуць вас на суд дзяржаўны,
— Ідзём са мной, — прагаварыў.
— На суд, на зьдзек, на глум крывавы!
— На суд апошні йдзём, Кастусь!
— Аўтар дыміцца — трэ, ахвяры,
— За сонны грэх твой, Беларусь.
— Літву і Польшч крывавай шматай
— Пакрые сёньня шмат сыноў.
— Яны ішлі з табой, дыктатар, —
— Ісьці за імі будзь гатоў.

## 5

У муры панурым і старым
Пакой вялікі і шырокі,
Заняў сялібай суд высокі, —
Вайсковы суд сабраўся ў ім.
Тры заслужоных генералы,
Яго вялічаства, цара,
У парчу і золата прыбраны
Судзіць сабраліс бунтара.
Навокал столу селі чынна,
На ўзбоччу — грозны пракурор
І слугі ўсе, як быць павінна,
Як увялося з даўных пор.
А на сьцяне, арол двуглавы,
Карона царская над ім —
Сымболь тыраніі праклятай
І перамога над слабым.
Як быццам жартамі над праўдай —
Сымболям праўды лёг на стол
Перад судзьдзямі — сьмех дапраўды —
Хрыста расьпятага сымболь.
І так вясёлы генералы,
Як-бы спаткаліс на піру.
Ня дзіў — сышліс крывавай справай
Служыць крываваму цару.
Старэйшы зь іх рукою тлустай
Махнуў таўпе пакорных слуг.
Таўпа варушыцца паслушна,
Згадаць яго ўладны рух.
І адчынілі дзьверы з кратай.
У таўпе жандараў-вусачоў
Ідзе на суд «Літвы дыктатар» —
Патомак слаўных Крывічоў.
І скрыжаваліся пагляды
Вачэй судзьдзі і вязьняра. —
У вязьня думная пагарда,
А люта злосьць — у судзьдзі была.
Жандармы шчыльнаю таўпою,
Вядуць і садзяць змагара
І шашкі выняўшы, канвоем
На варце сталі бунтара.

## 6

Судзьдзя адкашляўся й паважна
Вялізну кнігу расхрыстаў
І тонам строгім і выразным
Свой суд пытаньнем распачаў:

Судзьдзя:

— Зь якога роду?
Дзе жыў —
І як завуць?

Кастусь:

— Я зь беларускага народу,
Яму служыў,
А імя — унукі ўспамянуць.

Судзьдзя:

— Ня будзьце вы такім упартым,
Пазвалі вас тут па загаду
Вышэйшай ўлады, — не пара
На жарты. —
Вы бунтавалі проці ладу
І волі бацюшкі-цара?

Кастусь:

— Але, я бунтаваў! Вы — правы,
У гэтым шчыра прызнаюсь!
Падняў я першы сьцяг крывавы
За працы люд! — І Беларусь.
Ня трэ нам ласкі прымусовай!
Ня трэба нам апякуноў.
Ваш цар — крывавы гнёт вяковы
Пад вывескай — славян братоў! —
Сабраўшы нацыяў бязьліку,
У Расею-матушку сваю,
Вы аддалі сям'ю вяліку
На жар хіжацкі маскалю.
І кажны рух «самазашчыты»,
Плямён славянскае сям'і
Вы каты — царскія найміты,
У пажарах топіце й крыві.
Ужо блізак, блізак дзень расплаты
Для вас — народаў грабары.
Штыхамі й петлямі вы, каты,
Той ня стрымаеце пары.

Судзьдзя:

— Маўчы! Бо дорага заплаціш,
Так нас абразіўшы й цара.
Ты, ты бунтар! — мяцежнік дзікі!
Ты — абаронца мужыка?!
На лад магутны і вялікі
Як паднялась твая рука?
Дык знай: заплаціш нам багата,
Дыктатар хамаў і рабоў!

Ты зьгінеш марна ў лапах ката,
У пятлі вяроўкі між стаўпоў.

Кастусь:

— Так, ізноў вы правы, правы!
Я ня збудзіў народных мас,
Прайграў я справу, генералы,
Заплатай сьмерць прыму ад вас.
Ня страшна сьмерць і вашы кпіны!
Даўно аддаў я справе ўсё,
А сёньня толькі для Краіны
Аддам — жыцьцё!

Пракурор:

— Яшчэ ня страчана надзея,
Яшчэ ня згублена ўсё.
Адкрый намеры нам і дзеі —
Даруем мы табе жыцьцё.

Судзьдзя:

— Падумай...
Наш цар ёсьць міласьцівы,
А за цябе папросім мы
І будзеш ты ізноў шчасьлівы,
Вясёлы, вольны й жывы.
Адкрый нам толькі бяз утойкі
Ліхіх памочнікаў сваіх,
І главароў мяцежнай шайкі
Жамойцкіх, польскіх і сваіх.

Кастусь:

— Такой агіднаю цаною,
Жыцьцё сабе я ня куплю.
Таргуйце вы, паны, сабою —
Я кроў братоў не прадаю.
Судом ня вашым я асуджан,
Ад вас я толькі сьмерць прыму,
Бо кожны слаб з вас і заблуджан
Судзіць мяне — й маю віну.
Ёсьць суд патомкаў, ёсьць і Бога:
За шлях пражыты на зямлі.
Ня вы, — яны асудзяць срога.
Вы-ж — гістарычныя нулі.
Ня вам, ня вам судзіць, паверце,
Народнай волі змагароў:
Ахвотны мы ўсе памерці,
І рэдка хто — прадаць гатоў.
Вы памыліліcь, генералы!
Дармо спакусы... Я — ня ваш!
І вашых «срэбранікаў» мала,
Я — барацьбіт, а ня Юдаш.
Усё прыму... нат мукаў болі
І толькі тутака зьмірусь,
Адно — ня здраджу я ніколі
Свой бедны люд і Беларусь!
Няхай — памру!

Вы — сьмерць расславіце маю.
З крывавых мукаў
У сэрцах унукаў,
Я ў помсьце жорсткі й багаты,
Як агняцьветам расьцьвіту
На гібель вашу, каты!

Судзьдзя:

— Маўчы! Даволі гэтых думаў!
Ня сьмей рабіць нам прыгавор,
Мы над судом ня сьцерпім глумаў.
За вамі слова, пракурор.

Пракурор:

— Я доўга гаварыць ня буду,
Высокі суд, — тут ясна ўсё,
Я дамагаюся прысуду
Сьмяротнай кары для яго.
Ён дзіка йшоў супроць улады
І волі рускага цара,
Са сьцягам помсты і пагарды,
З вар'яцкай мэтай бунтара.
І пакананы — перад вамі
Гразіць асьмельваецца тут,
І робіць гордымі славамі
Усёй манархіі прысуд.
Мяцежнай думаю заняты,
Прыгатаўляў ён гібель нам.
Няхай-жа сёньня, у дзень расплаты,
Высокі суд! — ён зьгіне сам.

Судзьдзя:

— Што скажаш ты на абарону
Сваіх сьмяротна цяжкіх він?
Свой тон, мяцежнага разгону
Пакінь!
Ты пакананы і адзін!

Кастусь:

— Мяне асудзіце, я знаю
І зьгіну я — няхай.
Цаной жыцьця распачынаю
Я барацьбу за родны край.
Са мной ня зьгінуць мае дзеі
І дух народнай барацьбы:
Не пераможаце ідэі
Вялікай праўды на зямлі.

Судзьдзя:

— Пакінь мяцежныя пагрозы,
Дарма нас помстаю ня страш.
Мы праўду вашу пераможам,
Як кожны рух і пратэст ваш.
А лепш, дыктатар разьвянчаны,
Главар бунтуючых рабоў,
І нашай праўдай пакананы,

Спаткацца з сьмерцю будзь гатоў!

Кастусь:

— О, я даўно гатоў!.. памру...
А вам прыпомняць сьмерць маю!

Судзьдзя:

— Маўчы!
Даволі глуму слухалі твайго!
Жандармы! — вывесьці яго!

7

I лёх ізноў у сырой вязьніцы,
I ў ім Кастусь адным адзін,
I думы ў яго крынічаць,
У сьмяротным ходзе каляін.
— Памру, памру!.. няхай... ня шкода
Пражытых дзён і нат жыцьця,
Бо ёсьць патрэбнай для народу
Ахвяра гэтая мая.
О, Беларусь! — мая Марыська!
Каханьне шчырае маё.
Бывай! — расстаньне надта блізка,
Бывай змаганьне й жыцьцё!
Бывай нядоля і пакута,
Народ засьмягшы у паўсьне,
Яшчэ ня скора ськінеш путы
I жыць пачнеш сабой сабе.
Народзе, устанеш! — і парукай
За лёс твой сёньня сьмерць мая.
Зь няволі зьдзеку, крыўд і мукаў
Ты паўстанеш да жыцьця!
Ня вер, ты толькі, мой народзе,
Ні дабрадзеям, ні паном,
Куй новы лёс, з сабою ў згодзе
I вер — сабе і мазалём.
Спаткае чорны час — ня гніся,
У буру моцным будзь — ня трусь!
Мяне ўспомніш — памаліся,
А я з-за сьвету адклікнуся.
I не прадам цябе, ня здраджу,
Ні на гары, ні ў лагу,
А зблудзіш ноччу — я дараджу,
Знайсьці дарогу памагу.
Бывайце й вы, сябры змаганьня
З-пад знаку белага арла,
Мы разам йшлі аж да расстаньня,
Хоць мэта розная была.
О, сьмерць, прыходзь! Я ўжо гатовы
I ня бунтую — ня крычу.
Здымай-жа, кат, мае аковы,
Памерці вольным я хачу.
Усё аддаў!
Нічога не пакінуў,
Парваў з жыцьцём я ніткі ўсе —
Засталося толькі зьгінуць,

**Трэба — зьгіну!**
**Зямелька-маць прымі мяне!...**

8

**У Вільні рух маскоўскіх падхалімаў,**
**Лукіскі пляц людзьмі занят.**
**І шыбеніца паміж імі —**
**Пад шыбеніцай — царскі кат.**
**Зігцяць, блішчаць штыхі жаўнераў,**
**Грыміць сярдзіта барабан,**
**Паўз іх паходкай цьвёрдай, сьмелай**
**Ідзе наш Каліноўскі сам.**
**І зь ім яго сябры змаганьня,**
**Героі Польшчы і Літвы.**
**Разьбіткі грознага паўстаньня,**
**Народу верныя сыны.**
**На эшафот Літвы дыктатар**
**Усходзіць цьвёрдаю нагой. —**
**Навокал ціш... а пракурор**
**Прысуд чытае прад таўпой:**
**— Мяцежнік, шляхціц Каліноўскі,**
**На сьмерць асуджаны за бунт.**
**І па загаду Мураўёўскім,**
**Павешан сёньня будзе тут.**

Кастусь:

**— Ня шляхціц я!...**
**У нас розьніцы няма!**
**Ёсьць толькі наш літоўскі люд,**
**І за яго я гіну тут!**
. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . .
**І зьгінуў ён — ахвярны і вялікі,**
**Пад шум таўпы і бубна гук**
**Павіс — змагар Кастусь.**
**І з тых ніхто ня чуў, каго ён клікаў**
**У апошні час сьмяротных мук,**
**Бо спала Літва-Беларусь!**

Таболы, 1934 год.

## НОВАЕ НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

**Запруднік, Янка.** Спадчына бацькоў: «агледзіны».
Нью Ёрк, Выдавецтва газэты «Беларус», 1982. 30 б.

Брашура выдадзеная да 100-ггодзьдзя ад нараджэньня паэтаў Я. Купалы й Я. Коласа. Яна аналізуе іхную творчасьць ды робіць агляд стаўленьня да духовае спадчыны паэтаў — савецкае ўлады.

(Прадаўжэньне глядзі на старонцы 60-ай.)

Юры Весялкоўскі (Англія)

# БЕЛАРУСЬ

## У Першай Сусьветнай Вайне

## (Гістарычны Нарыс)

### АД АУТАРА

Вялікая Вайна 1914 году, у часе якой заварушыліся ўсе прыгнечаныя эўрапейскія народы, дала магчымасьць некаторым зь іх атрымаць сваю дзяржаўную незалежнасьць. Аднак гэтая незалежнасьць не заўсёды залежала ад нацыянальнага пачуцьця, жаданьня й змаганьня. Вялікае значэньне мелі міжнародныя й палітычныя абставіны, пастановы вялікіх дзяржаў, прыхільныя адносіны суседзяў і мілітарная сіла, калі не свая, дык нейкай дзяржавы, якая ня толькі спрыяла, але й дапамагала здабыць незалежнасьць.

Усё-ж, каб належна ацаніць падзеі, якія адбываліся на Беларусі ў 1914-1921 гадох, неабходна заглянуць у той адрэзак часу. А таму, у сваім сьціплым нарысе — «Беларусь у Першай Сусьветнай Вайне» — я зьвяртаю даволі многа ўвагі на падзеі, якія, здаецца, нічога або мала мелі супольнага да Беларусі й часта адбываліся далёкі навонкі яе межаў.

Але гэтыя далёкія падзеі мелі свой блізкі й рашучы ўплыў на лёс Беларусі, якія пасрэдна ці непасрэдна сталіся сумным заканчэньнем гісторыі змаганьня беларускага народу за правы быць Вольным і Незалежным гаспадаром свае краіны. На гэта зложылася шмат прычынаў, а галоўныя зь іх будуць тры:

1. Справа незалежнай Беларусі не ляжала ў інтарэсах вялікіх дзяржаў, як у часе вайны, так і на пасьляваенных канфарэнцыях у Парыжы й Рызе.
2. Суседзі Беларусі, расейцы й палякі, не былі яе прыяцелямі, а якраз у 1919-1920 гадох вялі паміж сабою вайну на тэрыторыі Беларусі й за яе тэрыторыю.
3. Шматвяковая няволя, якая пазбавіла беларускі народ магчымасьці да свае нацыянальнае культуры і асьветы на роднай мове, асабліва моцна адчулася ў сваіх выніках у часе вайны.

Змагацца ў такіх абставінах і з большымі сіламі было вельмі й вельмі цяжка. Аднак тое, што рабілі й зрабілі нашы продкі ў імя Беларусі ў часе яе акупацыі чужымі й варожымі арміямі, вымагае ад нас жывых добрага ўспаміну й належнай пашаны.

Рэч зразумелая, што гэты гістарычны нарыс ня зможа поўнасьцю задаволіць чытача, бо ў шмат выпадках я асабіста быў расчараваны напаткаўшы шмат супярэчнасьцяў, разьбежнасьцяў, недарэчнасьцяў і нават простыя факты тлумачыліся рознымі гісторыкамі й палітыкамі, з асяродзьдзя акупантаў Беларусі, пароэнаму, каб толькі апраўдаць свае замеры й прыцьміць прыкрыя, але сапраўдныя здарэньні.

Дзеля таго, хачу загадзя засьцерагчыся, што ўсё напісанае адносна Польшчы й Расеі ня ёсьць вынікам мае злое волі, хоць прыходзілася мне жыць пад адной зь іх больш, пад другой менш і іх пазнаць. Але паколькі гэтыя два народы, на працягу шматвяковай гісторыі зьяўляюцца ў шмат чым адказныя за рознага роду злоўжываньні над нашым народам, таму ў сьвятле гістарычных фактаў нельга іх памінуць.

Сабраны матэрыял зьяўляецца невялічкай часткай гісторыі бурлівых гадоў Першай Сусьветнай вайны, дзе я стараўся толькі дайсьці да праўды, ды публікую для тых, хто зацікаўлены гісторыяй Беларусі.

Таксама закрануў я й перадваенны пэрыяд, каб гэтым прадставіць чытачу палітычныя, эканамічныя й наагул усе тыя абставіны ў якіх знаходзілася Беларусь і ў якіх умовах жыў і змагаўся яе народ.

Адначасна выказваю падзяку кіраўніцтву Беларускай Бібліятэкі імя Франьцішка Скарыны ў Лондане, якое дало мне магчымасьць запазнацца з некаторым цікавым матэрыялам адносна Беларусі, які сёньня зьяўляецца бібліяграфічнай рэдкасьцю.

Таксама выказваю падзяку сп. Джэймс Дынглі, навуковаму супрацоўніку Рэдынгскага ўнівэрсытэту, які валодае беларускай мовай і ахвотна ўзяўся перагледзець маю працу.

Лондан, люты, 1983 г.

## ЭЎРОПА НА ПАРОЗЕ ПЕРШАЙ СУСЬВЕТНАЙ ВАЙНЫ

Суровая дыктатура пануючых вялікіх дзяржаў-імпэрыяў, якія стагодзьдзямі трымалі пад сваім гнётам меншыя народы, выкарыстоўваючы іх матэрыяльна, духова й фізычна, у канцы спаткаліся з гвалтоўнымі ідэялягічнымі й сацыяльнымі пераменамі.

Прыгнечаныя народы, у імя права жыцьця, розна рэагавалі супраць сваіх эксплуатататараў-прыгнятальнікаў, а найчасьцей дарогай бунтаў і збройных паўстаньняў. Важнейшым элементам на шляху праяўленьня свабоды індывідуальнай, а зь ёю й нацыянальнай, адыйграла паступовае пашырэньне асьветы, прэсы, камунікацыя, бліжэйшы кантакт з суседзямі, разьвіцьцё індустрыі, а зь ёю капіталізму й рабочага руху, — усё гэта знайходзіла свой водгук у прагрэсыўным сьвеце. Такі працэс сам па сабе ператвараў міжнародныя адносіны й надаваў ім новы характар і напрамак. Людзкая думка настолькі насьпела, што немагчыма было ўтрымаць яе пад забаронай.

Вялікадзяржаўны эўрапейскі нацыяналізм з часам перайшоў у імпэрыялізм і гэтыя два паняцьці прадстаўлялі ў сабе адзін магутны й небясьпечны ідэйны напрамак апошніх стагодзьдзяў. Але быў яшчэ й другі нацыяналізм — малых прыгнечаных народаў, які выступаючы ў імя дэмакрацыі, лібэралізму годнасьці чалавека, прыцягваў шматлікіх нятолькі сярод прыгнечаных сялян і работнікаў, але й сярод буржуазіі. Гэтыя паняцьці нацыяналізму, лібэралізму, дэмакрацыі й імпэрыялізму, незадоўга сталіся прычынай войнаў, якія руйнавалі краіны, уводзілі нязгоду між народамі й пхалі іх у вір сусьветнага катаклізму.

Вялікадзяржаўны эгаістычны нацыяналізм народаў пануючых імкнуўся да вынарадаўленьня меншасьцяў, якія змагаліся за захаваньне свае нацыянальнае апрычонасьці, як мовы, звычаяў, веравызнаньня, традыцыяў і любові да свае краіны-маткі. Гэтыя прыроджаныя элемэнты зьяўляліся й зьяўляюцца часткай жыцьця народу, яго індывідуальнай апрычонасьці, прыметай нацыі, што выяўлялася ў сільным нацыянальным пачуцьці. Зьявішча даволі старое, але калі прыгле-

дзіцца глыбей у гісторыю мінулага, адна рэч ёсьць пэўная, што ідэі ў якія людзі верылі, насілі ў сабе ня толькі абаронную форму, але часта ваенна-экспансыўны дух.

І ня гледзячы на суровыя мэтады дзеяньняў вялікіх, магутных дзяржаў-імпэрыяў забіць нацыянальнае пачуцьцё падбітых імі меншых народаў, не асягнулі свае мэты, а толькі выклікалі зразумелы гнеў. Усё гэта гаварыла за тым, што як доўга народы будуць засяляць зямны шар, так доўга будзе існаваць нацыяналізм з яго эмоцыяй.

З часам міжнародныя дачыненьні яшчэ больш узмоцнілі змаганьне народных масаў за свае правы, за справядлівасьць, за годнасьць і пашанаваньне адзінкі. Доўга не прыйшлося чакаць, як у другой палове XVIII стагодзьдзя наступіў вялікі зваротны пункт у гісторыі заходняй цывілізацыі, які зьмяніў ня толькі людзкія ідэі, але, калі так можна сказаць, перавярнуў сьвет. Пачаткам вялікага ажыцьцяўленьня ў жыцьці прыгнечаных народаў зьяўляецца Дэкларацыя Незалежнасьці Амэрыкі (1776 г.). Пачыналася яна словамі:

> "Калі ў бегу гістарычных падзеяў станецца неабходнаю рэчаю, каб які-небудзь народ парваў палітычную сувязь, якая лучыць яго зь іншым, і заняў сярод гаспадарстваў сьвету роўнапраўнае і апрычонае месца, да чаго ўпаўнаважваюць яго натуральныя й Божыя правы, тады пашана для апініі людзкасьці вымагае, каб народ гэты выказаў, якія прычыны змусілі яго да гэтага кроку.
>
> Мы ўтрымліваем гэтыя праўды за самадаводзячыя: што ўсе людзі створаныя роўнымі; што яны абдораны Стварыцелям пэўнымі непазбыўнымі правамі, сярод якіх ёсьць права да жыцьця, права да свабоды й права імкненьня да шчасьця..." (Узята зь перакладу Я. Пятроўскага "Лепшыя Думкі...").

Водгукам на амэрыканскую Дэкларацыю Незалежнасьці зьявілася Вялікая Француская Рэвалюцыя зь яе гвалтоўным тэрорам і ліквідацыяй францускай арыстакрацыі. Яна адначасна несла на сваіх сьцягох лозунгі — Братэрства, Роўнасьці й Свабоды, прадаўжэньнем чаго былі Напалеонаўскія войны, якія ў значнай меры спрычыніліся да пашырэньня вялікага нацыянальнага пачуцьця сярод эўрапейскіх народаў.

Упадак Напалеона й Венскі Кангрэс яго праціўнікаў (1814-1815), якія мелі адну мэту, — пасунуць гадзіньнік назад да 1789 году, інакш кажучы, устанавіць парадак да часу Вялікай Францускай Рэвалюцыі, ня мелі вялікага посьпеху. Ня гледзячы, што ў некаторых дзяржавах вярнулі манархіі, аднак 25-ці гадовы пэрыяд рэвалюцыяў і войнаў, разбудзілі ў народаў Эўропы нячуванае пачуцьцё і ідэі свабоды праяўляліся куды мацней за ляяльнасьць да каралёў ці іншых вяльможаў. Агітацыі й хвалі новых рэвольтаў пачаліся ў Гішпаніі і ў Італіі ў 1817 годзе, хутка пасьля Венскага Кангрэсу, і перакінуліся ў другія краіны Эўропы.

Такога маштабу падзеі, сталіся прадвесьнем новага вызвольнага

руху да самавызначэньня народаў, як некаторыя называюць "Вясной Народаў", якая адбылася ў 1848 годзе ў заходняй Эўропе. У гэтым 1848 годзе зноў скінута ў Францыі манархію і ўстаноўлена рэспубліку. На вестку ў Парыжы, народ Вены, Будапэшту й Прагі паўстаў супраць Габсбургаў.

Усе гэтыя рэвалюцыйныя плыні, а перадусім ідэалы 1789 году, былі настолькі сільныя, што не затрымаліся толькі ў самой Францыі, але ахапілі ўсю Эўропу й цэлае XIX стагодзьдзе, а свой кульмінацыйны пункт асягнулі ў часе Першае Сусьветнае вайны.

Нельга прамінуць, што ў другой палове XIX стагодзьдзя дамінуючую ролю ў літаратуры Эўропы заняў Рэалізм. Яго высказваньні на старонках прэсы знайшлі шырокі разгалос і падтрымку, перадусім, сярод адукаванай і сярэдняй клясы грамадзтва. У Расеі, адзін з прадстаўнікоў гэтага руху быў Фёдар Дастаеўскі, з паходжаньня беларус. Род Дастаеўскіх ведамы з XVI стагодзьдзя і яго прадстаўнікі займалі адказныя становішчы ў адміністрацыі і арміі Вялікага Княства Літоўскага. Для прыкладу, жонка Ф. Дастаеўскага Ганна, пасьля сьмерці мужа, зацікавілася родам Дастаеўскіх і ў 1887 годзе напісала пісьмо да сьвятара сяла Дастоева. У ім гаварылася: "Мой нябожчык муж Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі шмат разоў гаварыў мне, што яго род паходзіць зь гістарычнае Літвы ад Пінскага маршалка Дастаеўскага, выбранагаа ў сойм у 1598 годзе".

Непадобна палётам Рамантызму, які ў першай палове XIX стагодзьдзя дасягнуў свае найбольшай эмоцыі й спрычыніўся да адкрыцьця народаў зь іх культурным багацьцем і звычаямі, Рэалізм канцэнтраваўся на сутнасьці балючай справы, — на простым паспалітым народзе, яго сацыяльным прыгнечаньні і імкнуўся да палепшаньня быту гэтай паніжанай клясы народу.

Нажаль, такія дзяржавы як дынастычная Расейская імпэрыя зь яе адзінай і недзялімай тэндэнцыяй, не хацела нічога знаць і слухаць аб вызвольных сацыяльных і нацыянальных рухах. Уся палітыка царызму заключалася ў тым, каб канчаткова ўсьмяроціць нацыянальныя пачуцьці падбітых ім народаў і таму ўрад прасьледаваў іх родную мову, літаратуру й не даваў магчымасьці да асьветы на роднай мове.

Усё-ж, насуперак царскай забароне, пад уплывам лепшых дасягненьняў эўрапейскай думкі й культуры, у краіну даходзілі ідэі адраджэньня, гуманізму, лібэралізму, сацыялізму й такім чынам палітычны аспэкт нацыянальнага пытаньня знайходзіў у народзе сваё прабуджэньне ў форме канспірацыяў. Да таго дэмакратычныя галасы Белінскага, Гэрцэна, Чарнышэвіча і іншых, рабілі свой уплыў на масы Расеі, а Бакунін пісаў:

> "Я вымагаю толькі аднаго, каб кажнаму народу, кажнаму малому й вялікаму племю былі дадзены магчымасьці й правы паступаць згодна ўласнай волі: жадае ён зьліцца з Расеяй ці Польшчай — няхай зьліваецца. Хоча быць самастойным: няхай будзе гэткім.

Урэшце, хоча зусім ад іх аддзяліцца й жыць на варунках зусім асобнае дзяржавы — Бог зь ім, няхай аддзяляецца".

Таксама падвойная Аўстра-Мадзярская манархія, хоць і давала некаторыя правы народам свае 50-ці мільённай імпэрыі, аднак трымала іх пад наглядам і старалася паняволіць іншыя суседнія народы.

Найбольш страшная тыранія існавала ў Атаманскай імпэрыі, якая паўстала ў XI стагодзьдзі й хутка ўмацавалася. Першы атаман султан Асман I (1259-1326) прапагаваў сьвятую вайну Ісламу супраць хрысьціянскіх краін Візантыі. Валодаючы сваёй мілітарнай сілай, з часам, туркі занялі паўдзённа-усходнюю Эўропу і ўсходняе пабярэжжа Сяродземнага мора — Егіпет, Балканы й нават падыйшлі пад Вену, але былі тут разьбітыя польскім каралём Янам Сабескім III у 1683 годзе. Пры баку палякаў прымалі ўдзел жаўнеры Вялікага Княства Літоўскага.

Малады прускі мілітарызм, пад інспірацыяй Бісмарка, пасьпяхова аб'ядноўваў аднамоўныя правінцыі ў адну магутную нямецкую імпэрыю й меў свае заборчыя пасяганьні ў недалёкую прышласьць. Ужо ў першых месяцах свае ўлады, Бісмарк ясна й зразумела выявіў мэтады дзеяньня на прышласьць. Прамаўляючы ў палаце ён сказаў:

"Вялікае пытаньне павінна быць разьвязана не праз прамовы й бальшынёй пастаноў, але праз кроў і жалеза".

Прыблізна ў тым часе аб'ядноўвалася і Італія.

Час насьпеў да таго, што сталася блізу немагчымым спыніць развой нацыянальных рухаў і іх жыцьцёвы дух. У свой час, некаторыя з гэтых падбітых народаў мелі сваё багатае мінулае й былі той першай крыніцай, якая пазьней сталася агульнай культурай і цывілізацыяй Эўропы.

Найбольш зыркім прыкладам дэмакратычнай свабоды й поступу можа паслужыць Грэцыя. На ўсходзе Эўропы быў беларускі народ, які на палітычную арэну гістарычнага жыцьця выступіў як здольны творчы арганізм, маючы свае незалежныя княствы: Полацкае, Смаленскае, Турава-Пінскае і іншыя. Княствы гэтыя паўсталі раней як у Польшчы ці Расеі й шырокаведамымі былі ў тагачасным сьвеце. На чале такіх княстваў, часта стаялі слаўныя князі, якія выконвалі ўладу праз дэмакратычны вечавы лад. Яго творчыя духовыя вартасьці, якімі ён карыстаўся ўнутры сваіх княстваў і за яго межамі, сьветчаць аб самастойнасьці гэтага народу. Беларусы разам зь літоўцамі канчаткова разьбілі арды татарскага хана Койдана на Беларусі (1249) і гэтым самым ўратавалі заходнюю цывілізацыю ад далейшага татара-мангольскага руйнаваньня. Беларусы былі першымі ва ўсходняй Эўропе, што ўвялі друкаванае слова: Біблія Скарыны й пісаныя дзяржаўныя законы на беларускай мове: Літоўскі Статут, які гаварыў, што ў абліччы права ўсе людзі роўныя, уключна да самога князя. У 1596 годзе была надрукована першая беларуская граматыка ў Вільні, якая мела вялікі ўплыў на разьвіцьцё мовазнаўчай і пэдагагічнай навукі сярод славянскіх народаў.

Насьледнікі слаўнага Скарыны, беларускія асьветнікі, культурныя дзеячы, пісьменьнікі, друкары, гравёршчыкі, як Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Пётр Мсьціславец зь Іванам Фёдаравым, браты Кузьма й Лукаш Мамонічы, Сьпірыдон Собаль, Максім Вашчанка і яго сын Васіль ды шмат іншых, аказалі вялікае ўзьдзеяньне на культуру ўсіх славянскіх народаў і пакінулі па сабе няўміручую славу беларуса.

Старая ідэя незалежнасьці свайго гаспадарства, якое існавала ў форме Вялікага Княства Літоўскага, усьцяж была актуальнай у народзе й праяўлялася ў розных дзеяньнях.

За часоў француза Г. Валоіса на польскім троне, князь Мікалай Радзівіл рабіў захады, каб Вялікае Княства Літоўскае было асобна рэпрэзэнтована ад Польшчы. Калі, напрыклад, у XVII стагодзьдзі Польшча зьвязалася вайной са Швэцыяй, беларускі князь Януш Радзівіл рабіў спробы аднавіць незалежнасьць Беларускага гаспадарства з пад уплываў Польшчы. Пасьля яго, гэтую самую спробу рабіў гэтман Павал Сапега за часоў панаваньня ў Польшчы Яна Сабескага. Нажаль, гэтыя спробы ўстанавіць незалежнае беларускае гаспадарства не ўдаліся.

Слаўнае мінулае продкаў было запісана й перахоўвалася аж да другой паловы XIX і пачатку XX стагодзьдзяў, калі ў гісторыі Эўропы пачало ажываць асаблівае зацікаўленьне мінулым свайго народу, а разам зь ім пачало прабуджацца пачуцьцё нацыянальнага патрыятызму ў форме змаганьня за сваю дзяржаўную незалежнасьць.

Няважна як гэта было даўно, аднак гістарычныя дасягненьні й традыцыі багатай мінуўшчыны, напаміналі сваё. Гісторыя запісала, што й беларускі народ у 1863 годзе збройна паўстаў супраць царскага самадзяржаўя. Малады гадамі, але вялікі розумам, Кастусь Каліноўскі, стаўся сымбалем барацьбы беларускага народу за яго сацыяльныя правы свабоды й стварэньня сапраўдных умоў для жыцьця народных масаў. Яго імкненьні да волі, да праўды, да шчасьця, не для сябе, а для народу — не давалі яму супакою. Ён лічыў, што ў барацьбе з царызмам і панамі паўстане незалежная Беларусь і таму ўзяў на сябе адказнасьць зарганізаваць і падняць сялянскія масы на барацьбу за яе вызваленьне.

І сапраўды, Каліноўскі аказаўся адным зь першых, што зарганізаваў і падняў сялянскую вёску да збройнага чыну. Праз сваю нелегальную газэту "Мужыцкая Праўда", Каліноўскі праводзіў шырокую агітацыйную работу сярод сялян, друкуючы свае публіцыстычныя творы-пісьмы, звароты й праклямацыі рэвалюцыйнага зьместу. Вёў ён адначасна вайну на два фронты: супраць польскага нацыяналізму й расейскага імпэрыялізму. І толькі праз пралітую кроў гэтым паўстаньнем, працэс беларускай нацыянальнай сьведамасьці пракаціўся громам па ўсёй Беларусі. Ня гледзячы на востры прасьлед царскай рэакцыі, сярод прагрэсіўных навуковых кругоў Расеі пачало праяўляцца зацікаўленьне пытаньнем Беларусі й пачалі ўспамінаць яе ў заходняй прэсе.

Каліноўскі сьведама аддаў свае маладыя сілы (меў усяго 26 гадоў)

у ахвяру беларускай вызвольнай справы. Не зламалі яго допыты, пагрозы, мукі, не прамяняў яе за добрыя пасады, што сулілі царскія чыноўнікі й не прасіў памілаваньня, а да апошняй хвіліны свайго жыцьця застаўся верным таго, у што верыў і за што змагаўся са зброяй у руках, і яшчэ з-пад царскай шыбеніцы Мураўёва-вешальніка, пераслаў беларускаму народу свой апошні Запавет:

"Браты мае, мужыкі родныя! З пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да Вас пісаці, і можэ раз астатні. Горко пакінуць зямельку радную і Цебе дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрцэ, но не жаль загінуць за тваю праўду.

Прыймі Народзе па шчыросьці маё слово прэдсьмертное, бо яно з таго сьвету, только для дабра тваго напісано.

Не маш Браткі большаго шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку. Тагды ён толька можа быць у радзе, жыці ў дастатках і тагды только памаліўшыся па праўдзе Богу заслужыць Небо, бо збагаціўшы наукой розум, разаўе сэрцэ, і радню цэлу шчыро палюбіць. Но як дзень з нечэй ня ходзіць разэм, так не ідзе разэм наука праўдзіва з няволей маскоўскай. Да паколь яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва, і ніякой наукі, адно намі як скаціной варочаць будуць, не для дабра но на пагібель нашу.

Для таго то Народзе, як только калі пачуеш што браты тваe з пад Варшавы біюцься за праўду і свабоду, тагды і Ты не аставайся з заду, но ўхапіўшы за што зможаш, за касу, сякеру і цэлой грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечэе і народнае права, за сваю веру, за сваю зямлю радную. — Бо я табе з пад шыбеніцы кажу Народзе, што тагды толька зажывеш шчасьліво, калі над табою Маскаля не будзе.

Твой слуга ЯСЬКО гаспадар з пад Вільні".

(Узята з кніжкі Агатона Гільлера: «Historia Powstania Narodu Polskiego w 1861-1864 r. Tom I, Wyd. 2, Paryż 1867, 326-327»)

Пісаў К. Каліноўскі "Да люду беларускага" і ў вершаванай форме. За прыклад можа паслужыць урывак зь пісьма:

"Бывай здаровы, мужыцкі народзе,
Жыві ў шчасьці, жыві ў свабодзе,
І часам спамяні пра Яську свайго,
Што згінуў за праўду для дабра твайго".

«Ясько гаспадар з пад Вільні» — псэўдонім якім падпісваў свае творы Кастусь Каліноўскі).

Кастусь Каліноўскі ўвайшоў у гісторыю Беларусі як змагар за вялікую справу, як палымяны патрыёт, які паказаў, як трэба любіць, змагацца й паміраць за сваю Бацькаўшчыну і яе народ.

Паўстаньне 1863 году на Беларусі, Летуве й Польшчы мела нацыянальна-вызвольны і эканамічны характар, за што расейскі агрэсыўны

нацыяналізм-імпэрыялізм адказаў шыбеніцамі, расстрэламі, турмой, Сібірам і забаронай нацыянальнай дзейнасьці гэтым народам. Па скромным падліку Грабеца, павешана 396 паўстанцаў і выслана ў Сібір каля 38.000 яго ўдзельнікаў. Так выслугоўваўся былы дзекабрыст Міхаіл Мураўёў перад царскім прэстолам, заняўшы функцыю Віленскага губэрнатара.

На расейскі тэрор адазваўся беларускі голас з далёкай Швайцарыі. У Жэневе выйшла некалькі агітацыйна-рэвалюцыйных брашураў у беларускай мове, а між імі кніжка "Пра багацьце ды беднасьць". У Зурыху ў 1870 годзе выданы быў першы нумар беларускай эміграцыйнай газэты пад назовам "Грамадзкі Згавор", аднак матэрыяльныя нястачы не дазволілі прадаўжаць яе публікацыю.

Нямала скончылася сялянскіх паўстаньняў на Беларусі паражэньнем. Але ў памяці народнай захаваліся імёны іх кіраўнікоў: Налівайкі, Галоты, Глінскага, Гаркушы ды іншых.

Аднак у той змагарны час, прыкладна, з 1789 па 1871 год, у эпоху дэмакратычных рэвалюцыяў, пашчасьлівілася некаторым народам Эўропы, дарогай рэвольтаў і паўстаньняў, атрымаць сваю дзяржаўную незалежнасьць: Грэцыя, Бэльгія, Сэрбія, Румунія, Балгарыя й была надзея, што ў недалёкай будучыні атрымаюць незалежнасьць ці аўтаномію і іншыя народы.

Некаторыя з гэтых малых і маладых дзяржавак як: Бельгія, Швайцарыя, Данія й Галяндыя, устанавілі ў сябе лібэральны парадак урадаваньня, што было добрым прыкладам для іншых старых і вялікіх кансэрватыўных дзяржаў Эўропы. І неўзабаве, каля 1880 году, ва ўсіх дзяржавах Эўропы, за выняткам Расеі й Турцыі, пачалі ўводзіць парляментарную сыстэму. Права адзінкі абаранялася законам, рэлігія талеравалася, асьвета й прэса разьвіваліся й пашыраліся — цывілізацыя крочыла наперад. Былі гэта толькі пачаткі, вынікі рэвалюцыяў, лякальных войнаў і прагрэсыўнай прэсы, але ў грамадзтве надалей адчуваўся неспакой. Новыя ідэі, новыя амбіцыі й насільле нарушалі малады дэмакратычны парадак.

Старая гегемонія над нацыянальнымі меншасьцямі, а зь ёю інтрыгі, канфлікты, зайздрасьць, помста, розныя тэндэнцыі, блокі й далейшыя экспансіі, якія ўсьцяж адбываліся ў межах і паза межамі Брытыйскай, Францускай, Нямецкай, Аўстрыяцкай, Расейскай і Турэцкай імпэрыяў, — сталіся прычынай неабходнага збройнага канфлікту. Сярод парлямэнтарнай дэмакрацыі былі й дзейнічалі рэакцыйныя сілы. Кожная імпэрыя старалася ня толькі захаваць, але й пашырыць свае ўплывы, багацьці й прэстыж. Да таго, у меру разьвіцьця індустрыяльнай рэвалюцыі, шукалася рынкі збыту й забясьпечаньне ў заморскай сыравіне, што спрычынілася да новых экспансыўных падбояў адсталых народаў і краінаў Афрыкі і Азіі. Былі гэта пошукі ў свой час запачаткаваныя гішпанцамі й партугальцамі. Эўрапейскія каляністыя дзялілі між сабою чорны кантынэнт паводля сваіх адміністрацыйных і палітычных выгадаў, незважаючы на этнічныя ці эканамічныя граніцы. Уводзілі каляніяльны манаполь, экс-

плуатацыю натуральных багацьцяў і трактавалі мяйсцовае насельніцтва як нявольнікаў. Калоніі сталіся важнай крыніцай даставы сыравіны, харчоў, рынкам збыту прадукцыі, а з гэтым і канкурэнцыі, што выклікала сярод вялікіх дзяржаў міжнароднае напружаньне.

У 1907 годзе заходні дэпартамэнт Брытыйскага Міністэрства Замежных Спраў, прадставіў Брытыйскаму Габінэту тайны мэмарандум, у якім акрэсьліў мэты брытыйскай замежнай палітыкі. Мэта гэтай палітыкі датычыла незалежнасьці малых нацыяў. Паводля гэтага дакуманту, Вялікабрытанія павінна была "супрацьставіцца палітычнай дыктатуры магутнай дзяржаве, або групе дзяржаў, пры кожнай нагодзе". І таму адна толькі Вялікабрытанія прытрымоўвалася яшчэ людзкіх прынцыпаў і давала народам свае магутнае заморскае імпэрыі некаторыя правы да ўводжаньня сваёй адміністрацыі, свайго нацыянальнага, культурнага й рэлігійнага жыцьця. Рэшта імпэрыяў прадстаўлялі сабою лігу дэспатаў, якія трымалі Эўропу ў ланцугох.

Была гэта хранічная хвароба ўсіх імпэрыялістычных краін Эўропы, якія ігнаравалі права меншых народаў да самавызначэньня, а ставілі на першы плян свой вялікадзяржаўны імпэрыялізм. На пачатку 1914 году знайходзілася каля 50-ці мільёнаў жыхароў нацыянальных меншасьцяў Эўропы пад чужой дамінацыяй. Сярод гэтых народаў ад даўжэйшага часу фармìраваліся асьпірацыі нацыянальнай свабоды, што вяло да непрадбачаных рэвалюцыяў і войнаў.

Сярод імпэрыяў не было ані даверу ані згоды. Дынастычнае спаборніцтва й нацыянальны антаганізм Пан-Германізму й Пан-Славізму сталіся ідэялягічным выяўленьнем. Нямеччына з Аўстрыяй, Мадзяршчынай і Італіяй заключылі догавар і прыцягнулі на свой бок Турцыю. Расея засталася ізалёваная й незадоўга ўступіла ў саюз з Францыяй.

Бяручы агульна, эўрапейская сыстэма пасьля 1870 году базавалася пераважна на нацыяналізьме, мілітарызьме, сакрэтных дамоўленасьцях і тых самых імпэрыялістычных пасяганьнях, што так ці іначай вяло да непазьбежнай вайны. На эўрапэйскім гарызонце зарысаваліся тры галоўныя групы антаганістаў: Францыя й Нямеччына — няпрымірымыя ворагі. Нямеччына й Вялікабрытанія — першая выклікала варожасьць да другой праз разбудову свае сілы на моры, якая пагражала інтарэсам Брытыйскай імпэрыі. Апошнія, Расея і Аўстрыя — дзьве саперніцы за свае ўплывы на Балканах. А бязустанныя закалоты балканскіх народаў, прадстаўлялі сабою дзеючы вулкан, які мог выбухнуць кожнае хвіліны й заліць сваёй гарачай лявай усю Эўропу.

У такой насычанай эксплёзіяй атмасфэры, пахла порахам і чакалася толькі на адпаведную нагоду, прычыну, іскру, каб узарваць міжнародны супакой, дзеля заспакаеньня сваіх імпэрыяльных імкненьняў. Зусім добрая нагода надарылася летам 28-га чэрвеня 1914 году ў Сараеве, сталіцы Босьніі, дзе сэрбскія нацыяналісты з тайнай арганізацыі "Чорная рука", забілі праязджаючага праз горад вялі-

кага князя Фэрдынанда, наступніка трону.

Як паказала сьледзтва, сэрбскі ўрад ня быў замешаны ў гэтым забойстве, але ведаў што замах робіцца й сваечасова не запабег яму. Абураная Аўстрыя выставіла немагчымыя ўльтыматыўныя дамаганьні Сэрбіі, якія нарушалі яе сувэрэннасьць. Сэрбскі ўрад згаджаўся на большасьць дамаганьняў Аўстрыі й згодны быў аддаць даную справу на разгляд міжнароднага суду ў Газе. Нават Кайзар аднёсься прыхільна да адказу Сэрбіі й спадзяваўся, што Аўстрыя яго прыме. Канфлікт выкліканы ў Сараеве быў выключна справай Аўстрыі й Сэрбіі, але сюды пачалі ўмешвацца Расея й Нямеччына, два галоўныя спаборнікі.

Бэрлін бачыў, што час не па іх баку, што адзін пэўны саюзьнік Аўстра-Мадзяршчына на вачох трашчыць пад напорам нацыянальных антаганізмаў і толькі вайна можа ўратаваць сытуацыю. Але ў той час ніхто яшчэ вайны не плянаваў, хоць ад 1908 году вайна вісела ў паветры і ўсе да яе рыхтаваліся й пакладалі на яе надзеі. Шэф нямецкага штабу Гэльмут фон Мольткэ ў 1913 годзе сказаў сваймy аўстрыяцкаму сябру, што раней ці пазьней, але эўрапэйская вайна наступіць і канчатковае змаганьне адбудзецца паміж Тэўтонцамі й Славянамі.

Як бачым, ніякая зь вялікіх дзяржаў ня была шчыра зацікаўлена ў міры, хоць ангельская дыплямацыя рабіла захады, каб запабегчы вайне, аднак ня мела посьпехаў. Усё-ж Вялікабрытанія, якая была нэўтральнай у гэтым канфлікце, мела добрую магчымасьць запабегчы вайне. Яна магла далікатна паведаміць Аўстрыю й Нямеччыну, што калі яны распачнуць вайну супраць Сэрбіі, Расеі й Францыі, дык Вялікабрытанія стане па баку апошніх. Таксама магла паведаміць Расею й Фрацыю, што калі яны распачнуць вайну супраць Аўстрыі й Нямеччыны, то Вялікабрытанія застанецца неўтральнай. Такая пазіцыя Вялікабрытаніі, заставіла-б задумацца абедзьве варожыя стораны над сваімі неразважнымі пачынаньнямі, што, на жаль, так не сталася.

Амбіцыі, прэстыж, эгаізм і запалохваньні перавышалі здаровы розум і ў канцы на міжнародную арэну выступіла збройная сіла са сваім імпэрыялізмам, нацыяналізмам і капіталізмам. Збройная сіла заключалася на мілітарнай індустрыі ўсякіх гатункаў, якой заданьнем было пасрэдна ці непасрэдна нанесьці сьмерць, дэструкцыю й руіны варожай нацыі або нацыям. Сталася гэта, як пісаў у 1830 годзе прускі ваенны тэарэтык Карл фон Кляўсэвіц: “Вайна ёсьць прадаўжэньнем палітыкі іншымі спосабамі”.

Сама дыплямацыя, хоць і прытрымоўвалася парадку да 1914 году, аднак у канцы завяла. Да гэтага ў значнай меры спрычынілася прэса, якая, у некаторых выпадках, ня дзеля міру й справядлівасьці, а дзеля сваіх прыватных матэрыяльных карысьцяў, часта падавала весткі правакацыйныя, якія выклікалі міжнародны крызіс і абразу аднае нацыі супраць другое. Але галоўнымі віноўнікамі вайны, на якіх ляжала ўся адказнасьць, гэта некалькі каранованых галоў, паўдзю-

жыны дыпляматаў і малая група ваенных дарадчыкаў.

Аўстрыя, каб даць добрую навучку малой Сэрбіі, аб'явіла ёй вайну 28-га ліпеня 1914 году. За плячыма Аўстрыі стаяла яе верная й моцная саюзьніца Нямеччына са сваёю старою тэўтонскай палітыкай "Дранг нах Остэн" і супольна з Аўстрыяй стараліся ізаляваць Расею ад уплываў на Балканах.

Адносіны паміж Расеяй і Нямеччынай ніколі ня былі запрыязьненыя, хоць некалі яны мелі падпісаны догавар міру. Пераважна лучылі іх супольныя абставіны часу, а менавіта, як немцы так і расейцы, у першую чаргу мелі на мэце, каб утрымаць і асыміляваць землі разабранай Рэчы Паспалітай з 1772-1795 гадоў. А па-другое, дамашнія абставіны Нямеччыны змушалі яе ісьці ў вайну. Індустрыяльная гаспадарка пашыралася хутчэй за яе суседзяў, а зь ёю ўзрост насельніцтва. У 1880 годзе налічвалася ў Нямеччыне 45 мільёнаў жыхараў, у 1900 годзе 56 мільёнаў, а ў 1914 годзе блізка 70 мільёнаў. Што год дадатковы мільён дзяцей трэба было накарміць і забясьпечыць. Знайсьці для іх месца ў краі, ня было так выгадна, а паза межамі — дарогай мірнай, тым больш не было магчымым. Адзіны выхад, гэта толькі дарогай вайны й коштам падбою другіх народаў. Гэтак урад Нямеччыны спадзяваўся разьвязаць такую праблему.

Няменш немцы пачалі дамагацца каленіяў і як пратэкцыя сваіх заморскіх інтарэсаў, распачалі разбудоўваць магутны марскі флёт і армію, што сьведчыла аб імпэрыялістычных замерах, якія адначасна змусілі й другія дзяржавы ўзбройвацца. Быў гэта перадваенны час, які называлі — мірным часам збраеньня.

У сапраўднасьці, Венскі ўрад ня так хацеў памсьціцца на Сэрбіі за забойства Фэрдынанда, як хацеў спыніць яе нацыяналістычную прапаганду, якая дамагалася злучэньня югаславянскіх народаў у адну дзяржаву з пад чужой акупацыі.

Аўстра-Мадзярская імпэрыя была ў большасьці каталіцкай, але паўдзённа-ўсходнюю яе частку засялялі славяне, а сярод іх тры мільёны праваслаўных. Таму Аўстрыя хацела палажыць сваю руку на Сэрбію, будучы пераконанай разам зь Нямеччынай, што Расея дзеля мілітарных прычын у вайну не ўступіць і нямецкае дыпляматычнае майстэрства будзе надалей надаваць палітычны ход кантынэнту. Але Расея стала на сваім і не пазволіла Аўстрыі ісьці глыбей у тэрыторыю праваслаўных славян.

Шматнацыянальная Аўстра-Мадзярская імпэрыя ў апошніх перадваенных гадох траціла прэстыж і вайною спадзявалася ўзмоцніць сваю пазіцыю вялікай дзяржавы, ды адначасна ўспакоіць нацыяналістычныя тэндэнцыі ў нутры краіны, якія заграджалі яе існаваньню. *)

Нацыянальныя меншасьці імпэрыі: чэхі, славакі, кроаты, словэн-

---

*) Такой палітыкай карыстаўся ў свой час Мэттэрніх, будучы пераконаным, што ўступствы нацыянальным меншасьцям будуць катастрафальнымі для Аўстрыі й на ўсіх франтох супраціўляўся ім аж да канца свайго ўрадаваньня ў 1848 годзе.

цы, палякі, украінцы, італьянцы й румуны колькасна перавышалі аўстрыйцаў і мадзяраў і заўсёды між гэтымі living рознымі народамі былі частыя спрэчкі, а зазвычай большыя народы хацелі большых свабод. Чэхі й палякі дамагаліся гэтых самых правоў што мела Мадзяршчына й гэтага хацелі меншыя народы. Але ніводзін народ гэтай імпэрыі не хацеў вайны і ўпадку імпэрыі. Усё што яны хацелі, гэта людзьмі звацца й заняць сваё раўнапраўнае месца ў імпэрыі.

Ня меншую адказнасьць за распачацьце вайны паносіць і палітыка царскай Расеі. Больш за стагодзьдзе Расея канцэнтравала галоўную экспансію ў напрамку паўдзённа-ўсходняй Эўропы, уважаючы гэта за сваю гістарычную місію. І быццам у абароне Сэрбіі й праваслаўя, а фактычна маючы замер прабіцца праз цясьніны Босфара й Дарданелаў на цёплыя воды Сяродземнага мора, а ў першую чаргу да Канстантынопаля й Балканаў, дзе мела "вызваліць" славянскія народы з пад аўстрыяцкай і турэцкай дамінацыі пад свае ўплывы й таму загадала мабілізацыю. Нямеччына палічыла гэта за пагрозу й выслала ўльтыматум у Пецярбург, зазначаючы, што калі Расея ня спыніць мабілізацыі за 12 гадзін, тады Нямеччына абʼявіць сваю мабілізацыю, ды адначасна запытала пра становішча Францыі.

Францыя, жывучы традыцыямі свае шматвяковай магутнасьці, але, тры разы ў апошнім стагодзьдзі: 1814, 1815 і 1870 гадох пачула гром прускай кананады нават у Парыжы. І ў канцы будучы пабітай у вайне 1870 году і ўтраціўшы правінцыі Альзас і Лётарынгію, дыхала ненавісьцю й помстай да Нямеччыны й спадзявалася ў прышлай вайне адабраць іх назад з кампэнсатай разбудовы заморскай імпэрыі.

Нямеччына, атрымаўшы адмоўныя адказы, загадала мабілізацыю і абʼявіла вайну Расеі. (1. 8. 1914). Францыя, як саюзьніца Расеі, не асталася нэўтральнай і два дні пазьней абʼявіла вайну Нямеччыне — (3. 8. 1914). Нямеччына доўга не чакаючы пайшла вайною на Францыю й выбрала стратэгічную дарогу найменшага апору, праз малую й не ў чым не вінаватую Бэльгію, бо граніца француска-нямецкая была моцна фартыфікована.

Вялікабрытанія, якая разам зь Нямеччынай гарантавалі нэўтральнасьць Бэльгіі паводля догавару 1839 году, зложыла пратэст супраць Нямеччыны за нарушэньне нэўтралітэту. Не атрымаўшы ніякага адказу на свой пратэст, а галоўна, каб запабегчы нямецкай магутнасьці й канкурэнцыі на моры, што праз заняцьцё Бэльгіі й паўночнай Францыі Нямеччына мела адкрыты выхад на Атлянтычны акіян і блізкі доступ да яе берагоў, — абʼявіла вайну Нямеччыне 4-га жніўня 1914 году. 5-га жніўня 1914 году Аўстра-Мадзяршчына абʼявіла вайну Расеі. Амаль на працягу цэлага месяца жніўня, дзяржавы варожых лягероў абʼяўлялі адна другой вайну.

У гэтай вайне Вялікабрытанія спадзявалася ўтрымаць раўнавагу сілаў Эўропы, свае каляніяльныя тэрыторыі, сваё права, гонар і перавагу на моры, бо ў сапраўднасьці яе галоўныя інтарэсы ляжалі далёка паза Эўропаю. Да канца XIX і ў першых гадох XX стагодзьдзяў,

Вялікабрытанія кантралявала каляаднае чацьвёртай зямнога шару. Яна ня мела саюзьнікаў і не хацела іх мець, бо сваёю сілаю на моры, поўнасьцю давала сабе рады. Аднак на працягу апошніх стагодзьдзяў, Вялікабрытанія чынна або ціха сымпатызавала Нямеччыне, бо яе галоўнымі канкурэнтамі ў Азіі і Афрыцы былі Расея й Францыя. Але гэтым разам нямецкі імпэрыялізм і мілітарызм аказаліся на столькі небясьпечнымі, і ў гэтым няма сумніву, што Вялікабрытанія ўступіла ў вайну, каб ратаваць свае асабістыя справы й сваё існаваньне.

З другога боку, каб Аўстрыя зь Нямеччынай ведалі, што Расея перад імі не скапітулюе, што па яе баку выкажуцца Францыя й Вялікабрытанія, Нямеччына ня так лёгка адважылася-б на вайну, ня гледзячы на сваю мілітарную сілу, але з пункту гледжаньня гаспадарчага, — да вайны не была прыгатавана. Гэтыя цяжкасьці разумеў урад і дзеля таго Генеральны Штаб апрацаваў загадзя плян вайны на кароткую мэту, перамога прадбачвалася хутка, каб пазьбегчы эканамічную перагрузку.

Уступілі цэнтральныя дзяржавы ў вайну яшчэ й таму, што іх урады й галоўныя штабы ўважалі, што французка-расейскае супрацоўніцтва можа стацца для іх небясьпечным у значэньні індустрыяльнай экспансіі й няменш мілітарнай магутнасьці ў недалёкай прышласьці. Расея на пачатку XX стагодзьдзя стала на дарогу індустрыяльнага прагрэсу, а яе армія пасьля паражэньня 1905 году пачала рэарганізавацца.

У такіх створаных абставінах, хочучы ці ня хочучы, некаторыя мары сталіся рэчаіснасьцю. Пажар вайны пачаўся й з кожным днём пашыраўся, быццам у абароне незалежнасьці малых дзяржаў Сэрбіі й Бэльгіі. Але ў ідэялёгіі гэтай безадказнай вайны былі замеры далейшага наступу вялікадзяржаўных экспансыўных імпэрыялізмаў-нацыяналізмаў, якія ўсьцяж былі гатовыя трымаць прыгнечаныя народы пад сваёй дамінацыяй і эксплуатацыяй.

Найбольшымі доказамі такой палітыкі зьяўляліся тайныя дамоўленасьці вялікіх дзяжаў Антанты зробленыя ў часе вайны. Напрыклад, быў зроблены догавар паміж Францыяй і Англіяй коштам Турцыі. Догавар паміж Францыяй і Расеяй, аб якім ня ведаў нават Лондан і Рым, што пасьля вайны Расея мела вольную руку ўстанавіць сваю граніцу на захадзе, а Францыя на ўсходзе. За дапамогу на Ціхім акіяне, Японія, якая абʼявіла вайну Нямеччыне 23-га жніўня 1914 году, мела атрымаць Шантунг — кітайскі востраў, але яна не спускала вачэй з азіяцкага кантынэнту. Былі яшчэ абяцанкі Італіі, Румыніі й шмат іншых.

Усе гэтыя догавары, як вышэй успаміналася, былі тайнымі, бо інакш не магло быць. У сваім залажэньні яны супярэчылі агульнай дэмакратычнай думцы вызваленьня нацыянальнага й сацыяльнага меншых народаў Эўропы й другіх кантынэнтаў. Нават некаторую частку тэрыторыі Сэрбіі, за свабоду якой распачалі вайну, тайна аддавалі Італіі. І таму вайна, якую яны распачалі й вялі, — вялі не

за вызваленьне падбітых народаў, а за іх новае й магчыма больш суровае паняволеньне. Разумеецца, што да гэтага ніхто не прызнаваўся, а нават у сваіх публікацыях усе ўдзельнікі вайны зьмяшчалі выняткі з караспадэнцыяў сваіх дыпляматычных захадаў, склікалі мітынгі й стараліся пераканаць агульную апінію, што вайны яны не хацелі й рабілі ўсё магчымае, каб ёй запабегчы.

Расейская прэса, у сваю чаргу, абараняла ідэі Пан-Славізму за якімі хаваўся імпэрыялізм, і ўважала вайну супраць Нямеччыны і Аўстрыі за слушную. Губэрнская газэта "Могилевский Вестник" за 29-га кастрычніка 1914 году пісала:

"... што калі вырашана будзе толькі пытаньне аб нашых і славянскіх адносінах да Нямеччыны, гэта яшчэ не канец спрэчкам... калі мы й цяпер ня выйдзем на прастор у Чорным моры, калі й цяпер на сьвятой Сафіі не зазьзяе новай славай хрысьціянскі крыж, мы ня можам лічыць, што наша справа даведзена да канца".

Перад самай вайной, 26 і 27 чэрвеня 1914 году ў Парыжы адбылася канфэрэнцыя паняволеных народаў, якая ў часе вайны 12-га лістапада таго-ж году абʼявіла ў сваёй дэклярацыі права народаў на палітычную незалежнасьць. Але вялікія дзяржавы гаварылі публічна адно, а за кулісамі вялі свой гандаль, ігнаруючы вызвольныя рухі прыгнечаных народаў.

Калі ў першых днях вайны загрымелі гарматы й палілася людзкая кроў, у Брытыйскім Парляманце ішлі дэбаты апошніх здарэньняў. 3-га жніўня 1914 году дэпутат Эдмунд Гарвэй сказаў:

"Я ёсьць пераканаsuccessfully, што гэтая вайна для бальшыні масаў краін Эўропы й ня толькі для нашае аднае краіны, ня ёсьць вайной народаў. Гэта ёсьць вайна, якую зрабілі... людзі на высокіх становішчах, зрабілі праз сакрэтную дыплямацыю, праз бюракрацыю, якая не была ў кантакце з народамі сьвету..."

Таму вось прычыны 1-ай Сусьветнай вайны праз даўжэйшы час заставаліся вялікім спорным пытаньнем. Галоўныя прычыны звальваліся на Кайзара, на аўстра-мадзярскую дыплямацыю, на нацыяналізм, капіталізм, каляніяльную рывалізацыю й мілітарныя саюзы. Аднак згодна фактаў, яна была вынікам шматлікіх прычынаў, як: палітычных, сацыяльных і эканамічных між рывалізуючымі імпэрыямі.

І так, праз забойства вялікага князя Фэрдынанда безадказнымі адзінкамі, пачалася Першая Сусьветная вайна. Агульная апінія й некаторыя ваенныя штабы прадбачылі хуткі яе канец, нават пакуль лісьце ападзе з дрэў, жаўнеры вернуцца дамоў. Але, як міналі месяцы й цягнуліся гады, вайна густа ўсьцілала палі баёў мільёнамі людзкіх ахвяр, рабіла калекаў, выклікала холад, голад, эпідэміі, рэвалюцыі, спусташэньні, — уцягнула Злучаныя Штаты Амэрыкі ў гэты катаклізм, і толькі ў канцы зьмяніла цэлае аблічча Эўропы.

працяг будзе.

# АБ РОДНЫМ

Падарожнічаючы па далёкай Сібіры і яшчэ далейшай Амэрыцы, прыглядаючыся да чужых зямель, сустракаючыся з чужымі людзьмі, традыцыямі, мовамі, усё больш узрастала ў маім сэрцы прывязанасьць да роднага.

І з комплексам непаўнацэннасьці, і з пачуцьцём уласнай віны думаю аб шматлікіх праявах беларускага рэнэгацтва, нізкапаклонства перад чужым, сарамлівасьці, а нават і пагарды ў адносінах да свайго роднага.

Плывучы па Іртышы і Обі, узьбіраючыся ў Парыжы на Эйфелеву вежу або ўглядаючыся ў Нью-Ёрку ў статую свабоды, стоячы перад тварам Ніягарскага вадаспаду, праз далёкі туман, глыбы небаскробаў, занавес пырскаў, праз таёжную сьцяну бачыў я заўсёды родную зямлю — Беласточчыну: найпрыгажэйшую, вечную й незалежную.

У часе аўтарскіх сустрэч у Амэрыцы і, зрэшты, і ў Беларусі, ня раз мне слухачы ставілі пытаньне: як вы разумееце і ўспрымаеце праблему Айчыны? І трэба сказаць, што адказ на такое пытаньне ў адрозьненьні ад француза, англічаніна ці кітайца для мяне, жыхара Беласточчыны, не даецца лёгка. Як-жа проста адказаць на такое пытаньне, для прыкладу, французу, які жыве ў сваёй нацыянальнай дзяржаве, які штодзённа ўсюды — у сям'і, на вуліцы, ва ўстанове карыстаецца французскай мовай, якому ў мэтрыцы нараджэньня і акце сьмерці напішуць на роднай мове аб тым, што жыў, быў і памёр...

Для француза айчына, дзяржава, нацыя, краіна выяўляецца ў адным слове — Францыя.

Мая-ж Айчына — гэта тая малая зямля, якая зьяўляецца маёй зямлёй найбольшай. Гэта той абшар, які я агортваў вачыма з парогу бацькаўскай хаты, які бачыў, узлазячы на панадворкавае дрэва. Гэта тая зямля, па якой за руку мяне вадзіла маці. Тая зямля, над якой я першы раз убачыў сонца, квітнеючую вішню, на якой першы раз абняў мяне вецер і на якой я першы раз пачуў салаўіную песьню. Тая зямля, якая калыхала маё дзяцінства й назаўсёды закалыхала маіх бацькоў. Толькі гэтую зямлю са сталіцай усяго сьвету — мае вёскі магу лічыць сваёй Айчынай — вечнай і незаменнай.

Можа нехта сказаць, што такое разуменьне Айчыны занадта парафіяльнае, вузкае, спрошчанае. Ня стану спрачацца. Лічу, што кожны чалавек мае права на ўласную трактоўку гэтай справы.

І другая праблема — нацыя. Тут маем дачыненьне са справай прасьцейшай, якой не дэтэрмінуе й не акрэсьлівае ні тэрыторыя, ні дзяржаўныя межы. Беларусам можна сябе адчуваць аднолькава й жывучы каля Менску, і жывучы ў Варшаве, і жывучы ў Чыкага. Аднак, на жаль, для многіх беларусаў зь Беласточчыны гэты бясспрэчны факт не зьяўляецца бясспрэчным. Для многіх недаразьвітых суб'ектаў нацыянальнасьць атаесамліваецца зь дзяржаўнасьцю. І вось такія людзі гатовы зьмяняць сваю нацыянальнасьць столькі разоў, колькі разоў кіне іх лёс у розныя краіны. Бедныя людзі! Многавяковая зьняволенасьць нашага народу сфармавала ў многіх беларусах сьхільнасьць да крывадушнасьці, імкненьне стацца тым, чым яны ня ёсьць, сьхільнасьць да рэнэгацтва. Такія людзі — грозныя людзі! Яны небясьпечныя ня толькі для той нацыі, ад якой адыйшлі, але яшчэ больш грозныя для той, да якой далучыліся. Бо вядома, што чалавек, які пакінуў роднае, у спры-

яючых варунках пакіне й чужое, заменьваючы яго на наступнае чужое. І таму нічога дзіўнага, што рэнэгатаў усюды выкарыстоўваюць, але нідзе іх не шануюць.

Я часта з жахам чытаю анкеты выпусьнікоў беларускіх ліцэяў — кандыдатаў на Беларускую філалёгію. Праўда, ня ўсе, але многія зь іх у рубрыках — "narodowość" і "język ojczysty" без дрыжэньня рукі пішуць "polska" і "polski". Такім чынам, уступаючы на парог самастойнага жыцьця, малады чалавек сьвядома ілжэ. Вядома, якім ён чалавекам будзе ў будучыні.

Асабіста ведаю аднаго «беларуса», які з гонарам падкрэсьлівае, што пражыў ужо трыццаць гадоў з жонкаю й тая да сёньня не даведалася, што ён беларус. Уявіце сабе жыцьцё на працягу трыццаці гадоў у страху, выкліканым тым, што жонка можа даведацца аб яго нацыянальным паходжаньні! Што за жахлівае духоўнае убоства!

І справа апошняя, якая мае імя дзяржаўнасьць і грамадзянскасьць. Вядома, што прысудам лёсу, гісторыі ці можа іншага фактару Беласточчына належыць да Народнай Польшчы... Зьяўляюся грамадзянінам Народнай Польшчы. Не атаясамліваюся з польскай нацыянальнасьцю, але атаясамліваюся з народнай дзяржаўнасьцю. Зразумела, што стоячы на грунцье гэтай дзяржаўнасьці й беручы пад увагу інтарэсы ўсёй дзяржавы, не магу ня бачыць спэцыфічных патрэб той нацыянальнай меншасьці, да якой належу, — беларусаў.

Дарагія суродзічы, блізкія й далёкія суседзі, землякі — жыхары Беласточчыны, Беларусы! Езьдзячы па сьвеце, я цьвёрда пераканаўся ў адным: калі хочам, каб шанаваў, паважаў і цаніў нас чужы сьвет, мусім самі шанаваць, паважаць і цаніць сваё р о д н а е! Пагарджаючы родным, заслужым на пагарду з боку чужых, шануючы роднае, узьнімаем фундамэнт пашаны да самых сябе з боку іншых нацыянальнасьцяў.

Алесь Б А Р С К І («Ніва»).

---

(Працяг са старонкі 44-ай.)

**Аўген Калубовіч. Айцы БССР і іхны лёс.**
Клыўленд, ЗША, 1982. 72 б.

Нарыс «Айцы БССР і іхны лёс» ставіць мэту выясьніць, як паўстала БССР і які лёс спаткаў ейных творцаў, выясьніць праўдзівую, несфальшаваную гісторыю.
Графічнае афармленьне нарысу магло-б быць лепшым.

**Уладзімер Глыбінны. Пад Лебядзіным Знакам.**
Трой, ЗША. 1983. 96 б.

Гістарычная аповесьць пра выдатнага беларускага паэта Максіма Багдановіча ды ягоны побыт у Вільні й Ракуцёўшчыне. Кніга мае 4 ілюстрацыі.

**Памятная Кніга: 1950 - 1975.**
South River, UABRC, The Byelorussian Press, 1983. 79 p.

Збор артыкулаў і дакумантаў, якія адлюстроўваюць разьвіцьцё парафіі й пабудовы Беларускае царквы сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры.

## СЁЕ - ТОЕ. . . і яшчэ НЕШТА. . .

**Ведаў сабе цану, але не хацеў яе называць уголас.**

Асёл ня можа, адначасна, цягнуць і брыкацца.

**Працаваў, закасаўшы рукавы, толькі тады, калі мыў рукі.**

Многа можна было-б добрага зрабіць, калі-б ніхто ня цікавіўся каго за гэта пахваляць.

**Ці дастаткова насіць растаптаны абутак, каб жыць на шырокую нагу?**

Калі табе хочацца сьмяяцца — сьмейся, калі хочацца плакаць — усяроўна сьмейся.

**За невялікую плату сёе-тое можна зрабіць і бяз грошай.**

Чалавек родзіцца з двума вокамі й з адным языком, каб такім чынам ён мог бачыць у два разы больш, чым сказаць.

**Ніхто ня ведае, колькі ў галаве клёпак. А як лёгка пазнаць тых, у каго хоць адной не хапае!**

Каб засесьці ў сэрцы, бывае дастаткова кінуцца ў вочы...

**Тэлебачаньне паказвае нам шмат, але колькі яно ад нас засланяе.**

Сейце разумнае, добрае, вечнае, але ў добра падрыхтаваную глебу.

**Як шмат можна сказаць моўчкі!**

Што-б там ні сьцьвярджалі вучоныя, а чалавек паходзіць ад бацькоў.

**Якая жанчына не марыць першай пачуць апошні крык моды.**

Мала даць чалавеку адукацыю, трэба яшчэ яму растлумачыць, як ёю карыстацца.

**Геамэтрычная фігура: круглы дурань у квадраце.**

Кола яго інтарэсаў звузілася да... нуля.

**Госьць у хату – пятух у каструлю.**

# ЖАРТАМ І ЎСУР'ЁЗ

— Давай ніколі ня будзем сварыцца! — прапанаваў муж жонцы.
— Ты што? Ужо ізноў напіўся?

— У вас была ўначы ліхаманка? — пытае лекар.
— Была.
— А зубы ляскалі?
— Ня ведаю. Яны ляжалі на начным століку.



— Сёньня ваш сабака брахаў усю ноч!
— Не хвалюйцеся, ён высьпіцца ўдзень...

— Чаму Янка п'е ўжо трэці дзень узапар?
— Шукае ў гарэлцы забыцьця.
— А што ён хоча забыць?
— Пра гэта ён ужо даўно забыўся.

— Скажы ты мне, суседзе, чаму вада ў моры такая салёная?
— Як, гэта, ці-ж ты ня ведаеш, — адказвае той, — то-ж там столькі селядцоў плавае...

— У гэтага сьпевака заўсёды адчуваецца, што песьня плыве яму проста з сэрца...
— Так, толькі шкада, што праз нос.

— Жаўнер Гаўрыла! Чаму ты так многа п'еш? Перастань піць і атрымаеш капрала.
— Але калі я вып'ю, я адчуваю сябе палкоўнікам.

— Чаму вы адмаўляецеся плаціць алімэнты на ваша дзіця ад першай жонкі?
— На жаль, мне няма чым плаціць. Мая другая жонка ня хоча працаваць.

— ● —

**Крыху з эміграцыйнае бочкі...**

**Пэўная група беларускіх «духоўнікаў» заміж таго, каб маліцца перад царкоўнымі прастоламі ды спавядаць грэшных вернікаў, — самі спавядаюцца ў розных няверна-грэшных адвакатаў ды пакланяюцца перад прастоламі іншаверных судзьдзяў...**

**Прыгожа распалены М. Абрамчыкам камін БНР, да нядаўна крыху тлеў ды дыміў, аж нарэшце... засталася толькі гарачая жменя Сажы.(ч).**

**Выпушчаныя на сусьветны рынак Р. Астроўскім высокае цаны акцыі БЦР., апошнім часам так нізка ўпалі, што Мядзяк ім цана ў базарны дзень...**



**Уладыкі нашы самі**
**Пусьціўшыся ў адчай,**
**Грахамі ды судамі**
**Гоняць нас у «рай».**

# Вясёлы куточак






— Зачыніце дзьверы!..



— Ну, а калі ваш муж пачне сьмяяцца, дык пакажыце яму рахунак...



— Долата, абцугі, паяльнік!..



Выпіўка па нотах.



Фальшывая нота...



Палескія пяюні з хору «Крыніца» са Століна.

*Editor and Publisher: Nikolas Prusky*

*1086 Forest Hills Ave., SE. Grand Rapids, Mich. 49506 USA.*